*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# Наша слова

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
№ 10 (274)
6 сакавіка 1996 г.
Кошт — 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «РЭСПУБЛІКІ» СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СЯМЁН ШАРЭЦКІ СКАЗАЎ:** «Прыкладна дзесяць дэпутатаў размаўляюць па-беларуску ў час сесіі... Мы зробім усё, каб дэпутаты дасканала валодалі дзвюма мовамі — для жадаючых будуць арганізаваны курсы па авалодванні роднай мовай». Пра гэта шаноўны Старшыня гаворыць ужо не першы раз. Пара ўжо і за справу брацца!

○ ***ПАДПІСАННЕМ ПЯЦІ МІЖУРАДАВЫХ І ШЭРАГУ МІЖВЕДАМАСНЫХ ПАГАДНЕННЯЎ*** *завяршыўся афіцыйны візіт у Балгарыю прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра.*

○ **26 ЛЮТАГА ПРАВАСЛАЎНЫЯ ХРЫСЦІЯНЕ ПАЧАЛІ ВЯЛІКІ ПОСТ**, які папярэднічае Светламу Хрыстоваму Уваскрэсенню — святу Пасхі, якое сёлета будзе святкавацца 14 красавіка.

○ ***СЁЛЕТА Ў СТУДЗЕНІ Ў ГРОДНЕ СТВОРАНА НОВАЯ ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ*** *— Таварыства беларускай вышэйшай школы. У яе склад увайшлі каля 100 выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў горада. Новая арганізацыя з'яўляецца філіяй ТБМ і ставіць галоўнай мэтай сваёй дзейнасці спрыянне развіццю вышэйшай школы ў Беларусі, нацыянальнай па форме ды змесце і еўрапейскай па ўзроўні адукацыі.*

○ **У ВІЦЕБСКУ ПРАЙШОЎ СХОД ГРАМАДСКАСЦІ ГОРАДА**, дзе людзі выказалі сваю заклапочанасць становішчам беларускай мовы, яе ўціскам, які запыніў працэс адраджэння беларускасці ў сферы ўсяго грамадскага жыцця, і прынялі Заяву. У ёй гаворыцца, што па сутнасці зноў пачалася русіфікацыя, накіраваная на паступовую асіміляцыю беларусаў, замаскіраваную разважаннямі цяпер ужо аб славянскім адзінстве.

○ ***У ДОМЕ ТВОРЧАСЦІ ПІСЬМЕННІКАЎ «ІСЛАЧ» АДБЫЛОСЯ*** *пасяджэнне міжнароднага літаратурнага фонду, у які ўваходзяць амаль усе літфонды рэспублік былога Савецкага Саюза. Сабраўшыся на сустрэчу, пісьменнікі шмат гаварылі пра свае матэрыяльныя праблемы, якіх пасля сустрэчы не паменела.*

○ **ДНЯМІ СА СТАЛІЧНАГА ПРАСПЕКТА Ф.СКАРЫНЫ ЗНІК КІЁСК ТБМ.** Прычына яго знікнення — рашэнне гарадскіх уладаў, згодна якіх драўляная канструкцыя кіёска павінна быць заменена жалезнай. У бліжэйшы час кіёск ТБМ новага ўзору адновіць сваю работу.

**У Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь**
**Копія: Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь**

## Заява

*Сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

Днямі сярэднія школы нашай краіны атрымалі чарговы Зборнік нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь (№ 12 за 1995 г.), дзе змешчаны Правілы пераводу, арганізацыі экзаменаў і выпуску вучняў агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь, зацверджаныя загадам міністра адукацыі і навукі.

Як сведчаць пункты 27, 28 Правілаў, з гэтага года для выпускнікоў уводзіцца новы абавязковы экзамен — руская мова (пісьмова). Дзяржаўная беларуская мова застаецца сярод неабавязковых для здачы дысцыплін у адным шэрагу з мовамі нацыянальных меншасцяў.

Такі крок Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь на чале з міністрам В.Стражавым паказаў сутнасць антынацыянальнай і русіфікатарскай дзейнасці міністэрства. Дзеянні яго кіраўніцтва цалкам упісваюцца ў шэраг папярэдніх захадаў міністэрства, накіраваных на паслядоўнае выгнанне беларускай мовы з сістэмы школьнай адукацыі. Ідзе поўнае разбурэнне сеткі беларускамоўных школ (у сталіцы, напрыклад, сёння няма ніводнай цалкам беларускамоўнай школы), спыняецца выданне падручнікаў на беларускай мове.

Узнікла пагроза знішчэння ўсёй нацыянальнай сістэмы адукацыі Беларусі.

Паколькі палітыка Міністэрства адукацыі і навукі груба парушае Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, мы лічым, што Вярхоўны Савет павінен запатрабаваць ад міністра В.Стражава няўхільнага выканання адпаведных палажэнняў Асноўнага закона нашай краіны.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны патрабуе адмены ганебнага загаду, увядзення абавязковага пісьмовага экзамену па беларускай мове — як выпускнога, так і ўступнага ў ВНУ.

Сёння Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь — адзіная рэальная сіла, якая можа спыніць дыскрымінацыю грамадзян Беларусі паводле моўнага прынцыпу.

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы.**

## *Віншуем з вясною і надзеяй, мілыя жанчыны!*

***Марыя БАРАВІК***

## Чалавек – прамень духоўнага сонца

Бяру сябе ў сённяшнім адрэзку часу, калі сумленныя бедныя людзі, так мовячы, разгубіліся... Вядома ж, фізічнае выжыванне ўпіраецца ў матэрыяльны стрыжань жыцця. Але ці стане ён паратункам чалавечнасці, а гэта значыць, выжываннем, калі мы не заглыбімся думкай у нешта большае, вечнае — у тое, адкуль пачынаемся мы духоўна. Вялікі, духоўны чалавек падзеліцца апошнім кавалкам хлеба. Цяпер падумаем, колькі нас, вялікіх, і тых, захопнікаў, каму ўсё мала, хто думае, што яго жыццё — безразмернае і што ўсё заключаецца ў ім? А пасля яго — хоць патоп... Ідзе знішчэнне святога знака — быць людзьмі.

І вось мая думка верціцца вакол існасці: чалавек — прамень духоўнага сонца. У яго, аднаго, укладзена здольнасць глыбока адчуваць і пакутліва думаць. Яму дадзена — выпраменьваць сілу любові, сілу характва, сілу жывучасці, дабрыні. Чалавек, па сутнасці, — трагічная істота. Бо ці не адзін ён сярод жывога насельніцтва ў прыродзе ведае часовасць свайго існавання. І калі з усім гэтым станоўчым зместам, заключаным у яго асобе, сутыкнецца бездапаможнасць у сцвярджэнні сябе, то губляецца сэнс яго пакутлівага быцця. Божа, ратуй чалавека, апраўдай яго існаванне! Ён жа павінен быць і менавіта з тым зместам, які рухае і трымае жыццё. Ён павінен сцвердзіцца як Чалавек, як асоба. А гэта значыць, застацца сынам сваіх бацькоў, сваёй зямлі, якая ўзгадавала, застацца гукам той мелодыі, якая вырывалася з матулінай душы, калі яна расціла надзею жыцця. Нельга здрадзіць маці. Здраджваюць бездухоўныя, абмежаваныя людзі. А мы, беларусы, не павінны быць абмежаванымі ў гэтым сэнсе. У нас ёсць духоўны выток. Мы — самабытная асоба. Мы — мелодыя. І той, хто не дайшоў думкай да гэтай ісціны, павінен як-небудзь дабрацца да яе — зразумець, адчуць, што ў нас ёсць свая мова. І яна сапраўды прывабная і багатая.

Мне сумна, што да гэтай думкі не наблізіліся яшчэ многія людзі, і асабліва сумна за тых, хто цесна сутыкаецца з дзецьмі-беларусамі, хто ім гаворыць пра інтэлігентнасць, патрыятызм, пра нашу культуру. Як трэба нам яшчэ духоўна ўстрапянуцца, пазнаць сябе, адумацца, ачысціцца. Мова — наш розум, яна здольна вярнуць нам наша аблічча і ўпрыгожыць яго.

Будзем жа дзецьмі сваёй зямлі!

### МАЛІТВА

*Табе насустрач, Ойча наш,*
*Тваёй любові*
*Нясу свой боль,*
*нясу я ў ціхім слове.*
*Хвала Табе,*
*Хвала — Табе, мой Божа,*
*За думку,*
*што Табой свяціцца можа!*

*Пакут зямных, пакут зямных*
*бяру я ўрокі.*
*Дай мне надзею,*
*Госпадзі высокі!*
*Хвала — Табе,*
*Хвала — Табе, мой Божа,*
*За позірк,*
*што Табой свяціцца можа!*

*Узвысь наш дух!*
*Даруй нам, Божа мілы!*
*Пераканай сабой*
*і дай нам сілы!*
*Хвала — Табе,*
*Хвала — Табе,*
*мой Божа,*
*За слова,*
*што Табой свяціцца можа!*

Ім стаў юбілей БГКТ — Беларускага грамадска-культурнага таварыства, створанага ў Польшчы 40 гадоў таму. Гэтай даце быў прысвечаны ўрачысты пленум Таварыства, які адбыўся ў Беластоку. Удзельнікамі яго сталі міністры культуры і адукацыі Польшчы, дэпутаты польскага Сойма, кіраўнікі Беластоцкага ваяводства і, канешне ж, сябры БГКТ. Беларусь на свяце была прадстаўлена дэлегацыяй, узначаленай віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Русакевічам.




## *Свята беларусаў Польшчы*

За час існавання Таварыствам шмат зроблена дзеля захавання ў Польшчы беларускай культуры, мовы і традыцый, дзеля замацавання сувязяў між нашымі краінамі, адзначылі ў сваіх пасланнях Таварыству Прэзідэнты і Беларусі, і Польшчы. Загадам Прэзідэнта Беларусі старшыня Рады БГКТ Ян Сычэўскі быў узнагароджаны медалём Францішка Скарыны.

З нагоды свята БГКТ у Беластоку адбыўся гала-канцэрт агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-96». Напачатку яго прэм'ер-міністр Польшчы Уладзімір Цімашэвіч уручыў актывістам Таварыства ўрадавыя ўзнагароды краю. А потым у зале загучалі беларускія песні і мелодыі ў выкананні фальклорнага гурта «Арэшкі», ансамбля «Маланка», хору народнай песні «Каласкі» ды іншых беларускіх калектываў з Польшчы.



**На здымках:** 1. На пленуме выступае з прамовай старшыня праўлення БГКТ **Ян Сычэўскі**.

2. Госці свята (злева направа): ваявода Беластока **Андрэй Гаеўскі**, прэм'ер-міністр Польшчы **Уладзімір Цімашэвіч** з жонкай, віцэ-прэм'ер Беларусі **Уладзімір Русакевіч**.

**Праз 4 дні заканчваецца падпіска на перыёдыку!**
**«Наша слова»**
**Індэкс — 63865**

***Кошт на 1 месяц — 3250 рублёў, на квартал — 9750 рублёў***

Актуальна!

# Сквапная дзяржава плаціць двойчы, калі яна шкадуе грошай на падтрымку беларускай культуры...

*Аўтар гэтых радкоў мэр Маладзечна Станіслаў Татарыновіч заявіў, што сёлета, пасля мінулагодняга пропуску правядзення традыцыйнага фестывалю беларускай песні ды паэзіі менавіта ў гэтым горадзе, тут зноў адбудзецца фэст нашай нацыянальнай эстрады. Прама — на цэнтральнай плошчы Маладзечна. Тэрмін і дата правядзення свята — два дні ў чэрвені. Дата будзе вызначана ў самым хуткім часе.*

*Праўда, як зазначыў Станіслаў Канстанцінавіч, «Маладзечна-96» не будзе падобны па сваёй арганізацыі на ранейшыя фестывалі. Па-першае, не будзе конкурсу маладых выканаўцаў. Па-другое, ужо як вынік, фестываль абыдзецца без аўтарытэтнага журы. І, нарэшце, — ніхто нікому не ўручыць аніякіх прызоў, што гэтак хвалявалі спевакоў, кампазітараў і паэтаў. Прычына банальная — няма грошай.*

*Шкада. Асабліва, калі ўлічыць тое, што летам зноў у Віцебску ладзіцца «Славянский базар», для якога грошы знойдуцца — практычна, на прапаганду ў асноўным расійскай эстрады і, само сабой, мовы. А мы, беларусы, там будзем нібыта госці, каб пляскаць у далоні.*

*Што ж, ніхто не супраць песень братэрскіх славянскіх народаў. Ніхто не супраць, каб прадстаўнікі той краіны, дзе гэта культурніцкая акцыя праводзіцца, нешта падарылі ўдзельнікам ад імя Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў або нават беларускага народа. Але чаму за кошт развіцця ўласнай культуры?*

*Між іншым, горад Сонца, як маладзечанцы называюць тое месца, дзе жывуць, гэта не толькі згаданы фестываль, але яшчэ і атэставаная беларуская гімназія, Менскі абласны драмтэатр з таленавітымі акцёрамі і цікавым рэпертуарам, фальклорны рок-гурт «Палац», што праславіў свой родны горад і сваю краіну на ўсю Еўропу, гэта выдатнейшая музычная вучэльня імя Міхала Клеафаса Агінскага, дзіцячая музычная школа з добрымі традыцыямі і ў прывіцці юным талентам любові да нацыянальнай класічнай музычнай культуры, і да беларускай песні. Таму тут любяць і роднае слова, без якога няма гэтай песні. Яно, між іншым, гучыць і ў аўдыторыях, і ў рэпэтыцыйных залах, і ў настаўніцкіх кабінетах.*

*Падтрымаць бы ўсё гэта належным чынам матэрыяльна.*

*Дарэчы, вось што расказвала Бэцці Аўдзеенка, дырэктрыса згаданай музычнай школы:*

— Працэс навучання ў нас грунтуецца на трох «кітах» — родным слове ў беларускай песні, музыцыраванні на беларускіх народных інструментах і стварэнні беларускіх музычных калектываў — ансамбляў, хораў. У нас, напрыклад, ёсць такі — дзіцячы ансамбль народнай музыкі «Пацешкі». Ён — лаўрэат рэспубліканскага конкурсу «Сымон-музыка». А ў мінулым годзе разам з хорам навучэнцаў старэйшых класаў атрымаў званне ўзорнага. Гэта аўтарытэтнае прызнанне прафесійнага ўзроўню нашых дзяцей. І вельмі добра, што такі ўзровень узрошчаны, як гаворыцца, на беларускай глебе. І згаданы хор, і «Пацешкі» вельмі любяць жыхары нашага горада. Уласна, як і ансамбль народнай песні «Харашуха», у складзе каторага — выкладчыкі. Рэпертуар «Харашухі» — у пераважнай большасці беларускія песні, пры гэтым — песні Маладзечанскага, Вілейскага ды Валожынскага рэгіёнаў. «Харашуха» ды «Пацешкі» — абавязковыя ўдзельнікі ўсіх тутэйшых святаў, кірмашоў, іншых вясёлых мерапрыемстваў. Мінулым летам абодва калектывы па запрашэнні немцаў наведалі Германію, дзе за дзесяць дзён далі каля дзесятка канцэртаў у самых прэстыжных культурных цэнтрах краіны. Нашу дэлегацыю, не памылюся, калі скажу, суправаджалі ў глядзельнай зале пастаянныя авацыі, а за кулісамі — увага прадстаўнікоў мясцовых уладаў, карэспандэнтаў газет, радыё і тэлебачання. Вось што даў нам нацыянальны грунт.

**— Колькі, калі не сакрэт, у сярэднім за месяц зарабляе ваш работнік?**

— У педагагічнай стаўцы існуе разбежка (у залежнасці ад катэгорыі выкладчыка і стажу) ад 400 да 600 тысячаў рублёў. У асноўным педагогі, каб неяк праіснаваць, працуюць з падвоенай нагрузкай — на паўтары-дзве стаўкі. Канешне, гэта акалічнасць выклікае цяжкасці. І найперш — для саміх выкладчыкаў, якія тут днююць і начуюць. Да ўсяго іншага інструменты каштуюць надзвычай дорага...

**— Напрыклад, скрыпка?**

— Да 50 мільёнаў «зайцоў». Баян «Юпітэр», зроблены на Маладзечанскай фабрыцы, — 42 мільёны рублёў. Раяль — ад 80 да 100 мільёнаў. Улічыце, нам «серыйнікі» не падыходзяць. Вучыць дзяцей музыцы можна толькі на адмысловых, на «заказных» інструментах. Мы такія бачылі ў Германіі. Там, калі я давала інтэрв'ю адной мясцовай газеце, сказала: «Нашы дзеці на вашых інструментах сыгралі б, нарэшце, у 10 разоў лепей, чым вашы іграюць. А вашы дзеці на нашых інструментах, можа, наогул, не здолелі сыграць».

**— У Вярхоўным Савеце пачалі прымаць Закон аб бюджэце на 1996 год. Якія Вашы пажаданні дэпутатам у сувязі з гэтай нагодай?**

— Хачу ім пажадаць дзяржаўнай мудрасці. Калі ласка, шаноўныя, не прымайце смешных у сваёй мізэрнасці лічбаў тых сродкаў, якія пойдуць на культуру, адукацыю і здароўе. Памятайце, сквапная дзяржава тут заплаціць двойчы. Па-першае, калі ўзгадуе крымінальшчыкаў, якія нанясуць эканоміцы і духоўнасці грамадства непапраўную шкоду. Па-другое, калі ўзгадуецца пакаленне людзей, для якіх словы «Айчына», «Бацькаўшчына» будуць пустым гукам. Можа аднойчы наспець такі час, калі спустошаны ў духоўным сэнсе чалавек, антыпатрыёт прадасць свой народ, здрадзіць роднай зямлі. Нельга шкадаваць грошай на развіццё нацыі, на наш заўтрашні дзень.

Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.

Актуальна!

# Бацькі за беларускасць у дзіцячым садку

*Бажэна Іосіфаўна Грыгор'ева нарадзілася на Меншчыне ў вёсцы Данілкі Валожынскага раёна. Скончыўшы беларускую школу, працавала ў дзіцячым садку. Скончыла педагагічнае вучылішча, потым педагагічны інстытут; працавала ў сістэме дашкольнага выхавання. Цяпер — загадчыца сталічнага дзіцячага садка № 202. Акрамя таго, яна з'яўляецца сябрам Рады ТБМ Заводскага раёна сталіцы.*

**— Як Вы прыйшлі да разумення неабходнасці працаваць з дзецьмі па-беларуску?**

— У 1988 годзе я працавала ў садку № 79. Тады з дапамогаю Пятра Садоўскага, якога работнікі садка жартам называлі «хрышчоным бацькам», мы пачалі перавод садка на беларускую мову. Тады я была ў гарадской Радзе ТБМ і ўпершыню даведалася, што ў гэтай справе ў мяне можа быць шмат аднадумцаў. Я, метадыст, прапанавала нашай загадчыцы і дзвюм выхавацельніцам гаварыць з дзецьмі мовай, якую яны разумеюць, бо чуюць штодзённа — хай нават у выглядзе «трасянкі». І я не надта здзівілася, калі гэтую ідэю падтрымалі.

**— Вам было цяжка?**

— Надзвычай. Бо тады мы не мелі ані падтрымкі нашага кіраўніцтва, ані досведу, які прыйшоў з часам, ані гатовых напрацовак. А тады... Тады нам было цяжка, але не меншыя цяжкасці мы ўбачылі перад сабой апошнім часам. З дробязяў вырастаюць праблемы, якіх не было раней. Мы адчуваем іншае да сябе стаўленне.

**— Я ведаю, што многія настаўнікі ў сталічных школах і ВНУ, якія калісьці пачалі выкладаць па-беларуску, цяпер перайшлі на іншую мову — з уласнай волі і нават не атрымаўшы загаду. Гэта кранула і вас?**

— Кожны сам вырашае, што яму рабіць, калі жыццё навокал змяняецца. Але лічу, што нельга сходзіць з раз абранай дарогі. Тым больш, што перашкодаў нам ніхто пакуль што не чыніць. Праўда, дапамогі, як раней, мы не бачым. Але гэта, магчыма, не кепска: мы па-ранейшаму працуем з дзецьмі па-беларуску так, як лічым патрэбным.

**— Вы часта паўтараеце «мы», але звычайна пераход на беларускую мову арганізуе адзін чалавек. Стаўшы загадчыцай, гэта зрабілі Вы?**

— Я прыйшла ў садок у 1994 годзе, але толькі працягнула справу, пачатую раней. Па-беларуску ўжо гаварылі ў некалькіх групах — гэтаму спрыяла папярэдняя загадчыца, якая, дарэчы, была родам з Украіны. Пазней мы толькі афіцыйна замацавалі статус нашага садка як беларускамоўнага. Рашэнне аб гэтым вынес агульны сход супрацоўнікаў.

**— Яны і бацькі дзяцей падтрымліваюць гэтае рашэнне цяпер?**

— Нашыя работнікі — так, а сітуацыя з бацькамі трохі іншая. Шмат каму з іх усё адно, як гавораць з іхнім дзіцем — галоўнае, каб быў добры догляд. Самі яны размаўляюць «як усе», але не супраць таго, каб дзіця вучылі па-беларуску. Нямала бацькоў актыўна падтрымлівае работнікаў садка— сярод іх нават тыя, што прыехалі з Расіі. Прыязна ставяцца да беларускамоўнага выхавання людзі маладзейшыя, бо яны разумеюць: нашая мова ў бліжэйшым часе хацЯ і не стане найбольш ужыванай, але пазіцыі свае захавае.

**— Ці не клапоціць Вас думка аб тым, што вашыя выхаванцы ў школах і на вуліцы могуць сустрэць непрыхільнае стаўленне да таго, чаму іх вучылі тут?**

— Я не баюся гэтага. Бо мы нікога не робім гвалтам беларусамі. Нашая мэта — бліжэй пазнаёміць дзяцей з мовай і культурай свайго народа. Як яны будуць гаварыць далей, залежыць не ад нас. Мы толькі хочам, каб у іхняй памяці засталіся зладжаныя намі святы беларускай паэзіі, нашыя песні, святы нашага народа, якія адзначаюцца тут. А калі перад дарослым чалавекам ганяць тое, што ён шанаваў у дзяцінстве, ён альбо выракаецца гэтага, альбо абараняе. Мы ж даём толькі магчымасць выбіраць.

**— Гэта значыць, што беларушчына для вашых дзяцей — гэта, хутчэй, абрады і традыцыі, чым мова?**

— У пэўнай ступені так. Мала хто з іх гаворыць па-беларуску дома. Але нейкія народныя звычаі і традыцыі несвядома захоўваюцца ў іхніх сем'ях і толькі падмацоўваюцца тут. І гэта добра, бо для мяне нацыянальнае выхаванне важнае перад усім зместам, а не формай.

**— Апошнім часам бывалі выпадкі, калі бацькі, якія раней аддавалі дзяцей у беларускія класы школаў, пераводзілі іх у расійскія. Ці не было падобнага ў вас?**

— Не, бо мы самі не стваралі грунту для такіх праблем. Адзіны беларускі клас у школе нагадвае рэзервацыю, і не дзіва, што бацькам гэта не падабаецца, асабліва цяпер. Але ў нашым садку ўсе групы аднолькавыя — беларускія.

А што датычыць незадаволенасці бацькоў, дык, адпрацаваўшы з імі і іхнімі дзецьмі 25 гадоў, я ведаю: найчасцей нейкія патрабаванні бацькоў да кіраўніцтва сістэмы школьніцтва ці да школьнага выхавання — толькі вынік адкрытага ці прыхаванага ўціску з боку выкладчыкаў або выхавацеляў. І тут не дапамогуць ні дзяржаўныя законы, ні асабістыя прынцыпы. Якраз гэта вы сёлета і ўбачылі.

**— Ад людзей, якія займаюцца работай з дзецьмі, іншым разам чуюцца скаргі на адсутнасць беларускай метадычнай літаратуры...**

— Думаю, што гэта — толькі спосаб апраўдання ўласнай бяздзейнасці і абыякавасці. Ёсць цудоўныя метадыкі работы з дзецьмі — універсальныя. Дастаткова не паленавацца і зрабіць іх пераклад. Нядаўна з друку выйшла цудоўная кніжка «Беларуская народная педагогіка». Шмат цікавых рэчаў друкуецца ў часопісе «Пралеска», ды і вашая газета пачала звяртаць увагу на выхаванне дзяцей. Але лепш за метадычкі нам дапамагае тое, што большасць выхавацеляў памятае беларускія прыказкі, спевы і гульні з часоў свайго дзяцінства.

**— Ці аказвае ТБМ нейкую падтрымку Вашай дзейнасці?**

— Наадварот, я лічу, што гэта мы павінны дапамагаць Таварыству! Ды мы ў сваім садку гэта і робім, праўда, не праз прапаганду, а звычайнай штодзённай працай. Бо ўсе нашыя супрацоўнікі — метадыст Яўгенія Заяц, выхавацелі Наталля Грынкевіч, Вольга Бушуева, Наталля Грынь, Тацццяна Тарлоўская ды іншыя — аднадумцы ў дачыненні да беларушчыны. А спрыянне ёй можа мець розныя формы — напрыклад, свята, якое нашым дзецям мы хутка наладзім у музеі Коласа. Для бацькоў мы здымем яго на відэа, і яно захаваецца ў сем'ях, як падзея адначасова і жыцця прыватнага, і нацыянальнага.

**— Цяпер становішча ў краіне складаецца не на карысць носьбітаў беларускай мовы. На што спадзяецеся Вы, працягваючы сваю справу?**

— Я спадзяюся на лепшае. Бо тое, што да нас з пагардай ставяцца высокія ўрадавыя асобы, нічога не значыць. Галоўнае, што нашую мову я ўсё часцей чую на вуліцах, па тэлевізіі, бачу ў газетах. І тое, што бацькі нашых выхаванцаў кажуць нам: «Дзякуем за тое, што вы гаворыце па-беларуску», дае мне надзею, што мы абаронім тое, што належыць нам па праву.

Распытваў У.ПАНАДА.

## Даты і падзеі ў сакавіку

**5 сакавіка** — 100 гадоў з дня нараджэння К.Крапівы (К.К.Атраховіча) (1896—1991), драматурга, байкапісца, празаіка, навукоўца, мовазнаўца, грамадскага дзеяча, народнага пісьменніка БССР.

75 гадоў з дня нараджэння М.П.Фраймана (Бярозкі), беларускага сцэнарыста і драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**6 сакавіка** — 65 гадоў назад, у сакавіку 1931 г., створаны Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы.

**8 сакавіка** — Дзень жанчын.

**9 сакавіка** — спаўняецца 130 гадоў З.В.Нагродскаму (1866—1937), беларускаму паэту і культурнаму дзеячу, сябру Ф.Багушэвіча.

**11 сакавіка** — спаўняецца 105 гадоў А.В.Станкевічу (1891—1949), дзеячу беларускага нацыянальнага адраджэння, аўтару кніг па гісторыі і філасофіі.

**12 сакавіка** — спаўняецца 80 гадоў, як была заснавана ў Менску «Беларуская хатка» (1916—1920), клуб беларускай мастацкай інтэлігенцыі.

**14 сакавіка** — 65 гадоў з дня нараджэння П.А.Місько, беларускага пісьменніка.

**15 сакавіка** — спаўняецца 185 гадоў А.Ф.Рыпінскаму (1811—1900), беларускаму і польскаму паэту, фалькларысту, графіку, кнігавыдаўцу.

**17 сакавіка** — 100 гадоў з дня нараджэння Ізі Харына (1896—1937), яўрэйскага паэта, членакарэспандэнта АН БССР.

*Каб мы... усялякага труда і скарбаў для паспалітага дабра і для айчыны свае не шкадавалі.., бо ад прыраджэння звяры, што ходзяць у пустыні, знаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым падобныя бароняць вулляў сваіх, — таксама ж і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормленыя суць па бозе, да той мясціны вялікую любоў маюць.*

**Францішак Скарына.**

*(З прадмовы да кнігі «Юдзіф».)*



DR. FRANCIŠAK SKARYNA
1486–1551

# З днём нараджэння, Скарына!

Падчас культурных мерапрыемстваў «Беларусы ў Празе» (12—15 лютага) мне ўдалося папрацаваць у знакамітай славянскай кнігоўні, дзе пад шыфрам «К» сабраныя незлічоныя скарбы беларускае духоўнасці. У часопісе «Іскры Скарыны» за 1935 год, які выдавала Беларускае (Крывіцкае) Культурнае Таварыства імя Ф.Скарыны, вычытаў такія радкі: «З колаў беларускіх культурна-асветных арганізацый у Латвіі атрымана прапазыцыя, каб дзень 6-га сакавіка 1486-га году ўважаць за бясспрэчную дату нараджэння Францішка Скарыны, як гэта ўстанавіў М.Шчаціхін, вядомы гісторык беларускае культуры. Беларускае (Крывіцкае) Культурнае Таварыства імя д-ра Ф.Скарыны ў Празе далучаецца да гэтай прапазыцыі і заклікае ўсё беларускае грамадзянства рыхтавацца да ўрачыстага святкавання слаўных угодкаў духовага правадыра беларускага народу. На ўвесь свет паказаці трэба, што Беларусы ёсць дастойны, каб называцца народам Скарыны!»

Ігнат Дварчанін, які абараніў доктарскую дысертацыю ў Карлавым універсітэце па скарынаўскай тэматыцы, таксама ўважаў 6 сакавіка 1486 года за дзень нараджэння слыннага русіна з Полацка. Калі дапусціць такое меркаванне, то ў Празе ён і адзначаў свой 30-ы дзень нараджэння. Ну а сёлета ад таго зацьмення, якое здарылася над Полацкам у 1486 годзе, спаўняецца 510 гадоў.

На Скарынаўскім семінары ў Клеменцінуме (зусім недалёка ад друкарні, дзе «повелением» палачаніна была выдадзена Біблія) пад старшынствам нашага даўняга сябра Вацлава Жыдліцкага якраз і вялася гаворка аб пражскай чыннасці сына Лукі. Налета 6 жніўня споўніцца 480 гадоў першай друкаванай беларускай кнізе. Васіль Быкаў падзякаваў Празе і пражанам за векавую прыхільнасць, спагаду, узаемадапамогу, за падтрымку беларусаў у скрутныя часіны гісторыі.

600 гадоў таму назад зафіксавана беларуская прысутнасць у Празе. І калі сябры таварыства «Беларусь — Чэхія», Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», навукоўцы, дзеячы культуры з Менска наведалі Альшаны, яны пакланіліся праху першага прэзідэнта БНР П.Крэчэўскага, усклалі кветкі да магілаў В.Захаркі, М.Забэйды-Суміцкага, згадалі Т.Грыба — усіх суайчыннікаў, хто знайшоў у Празе свой апошні прытулак. У тым ліку і Скарына.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

**На здымках:** Старонка Бібліі. Прага скарынаўскіх часоў.




*Рэха* *Рэха*

# «Откровения» Мікалая Яроменкі-старэйшага

Газета «7 дней» мае выразны «славянасабораўскі» накірунак і як мага стараецца разбураць беларускую нацыянальную самасвядомасць. Таму яна не магла, канешне, прайсці міма інтэрв'ю, якое даў народны артыст СССР Мікалай Яроменка расійскай газеце «Завтра» — практычна рупару апантаных маскоўскіх славянасабораўцаў. Інтэрв'ю передрукавалі цалкам, цвяроза палічыўшы, відаць, што далёка не кожны ў Беларусі тое маскоўскае «Завтра» возьмецца чытаць.

А народны артыст СССР Мікалай Яроменка выступаў там, на жаль, у сваім амплуа апошняга перыяду: запалохваў «праваслаўных славян» «катастрафічнай небяспекай» з боку «какой-то огромной нечистой силы». Апошні выраз мы нават не сталі перакладаць на беларускую мову — такое трэба асэнсоўваць толькі ў арыгінале. Следам маэстра ўсё ж вырашыў удакладніць, што гэта за «огромные» нячысцікі яшчэ на нашу галаву зваліліся. Ды ўсё тыя ж, аказваецца, што і пры бальшавіках — краіны Захаду. Ну, не любяць яны «русский мир, славянский мир!» Бо... зайздросцяць. Што, беднасці, нягледзячы на прыродныя багацці, адабраныя ў народаў Поўначы? Безалабернасці і ці не паталоўнаму п'янству? Магчыма, але галоўнае — нейкай асаблівай духоўнасці і культуры, «недосягаемых... ни для кого в мире». За гэта «нячыстая сіла-Захад» і «нападают». А «мы, — упэўнены М.М.Яроменка, — «отбиваемся». Мусіць, як зараз у Чачні. А «они опять нападают». Тут, канешне, прыкладаў, нават не заглыбляючыся занадта ў гісторыю, лёгка згадаць багата — можна Венгрыю, можна Чэхаславакію ці Афганістан...

Ды што «нападают»! Аказваецца, ужо і ўвогуле «нас(?) взяли без единого выстрела и теперь торопятся разрушить, развалить»... Вось гэта дык мацавалі «Союз нерушимый» камуністычныя начальнікі і гіганцкія спецслужбы! Ды дзякаваць Богу, хоць без стрэлаў усё тое здарылася, хочацца дадаць. Але ж не, цяпер заходнім нячысцікам («нашими собственными руками», — бядуе народны артыст СССР) ужо «удается устраивать заварухи внутри самой России», «я не отделяю Россию от Беларуси, для меня это одно целое», — прызнаецца Мікалай Мікалаевіч.

І вось тут наша замілаванне адданасцю народнага артыста СССР «российской духовности» і таму падобнаму міжволі знікае. Бо беларусаў з мілай і амаль дзіцячай непасрэднасцю не толькі робяць такім прыёмам адказнымі за масавыя забойствы расійскай арміяй нават дзяцей і жанчын у Чачні (маўляў, — усе там бандыты) і фактычнае бязлітаснае вынішчэнне цэлага народа дзеля прыбыткаў нафта-газавых тузоў. Беларусаў лоўка ўцягваюць у вайну Расіі з народамі Каўказа і Сярэдняй Азіі, рыхтуючы пакуль да гэтага маральна. Усё наперадзе: працы забойцам народаў яшчэ многа. Пасля Чачні паспрабуюць, магчыма, «абараняцца» ад «нячысцікаў» у Эстоніі, марскія порты якой здавён прываблiваюць расійскіх «міратворцаў». А могуць з расійскай зухаватасцю пакаштаваць на сталёвы зуб гіганцкай ваеннай машыны і ўкраінскі «арэшак». Такая вось еднасць з «недосягаемой» духоўнасцю прапануецца беларусам у «откровениях» народнага артыста СССР. Для яго, магчыма, — гульня ў нейкага ўсеславянскага апостала, а для простых беларусаў — новыя бяда-гора і смерць-калецтва самай здаровай і жыццяздольнай нашай моладзі. А што? Ён жа вунь падкрэслівае — самі таго хочуць беларусы, бо «подавляющее большинство белорусского народа единодушно (?) высказалось за союз с Россией» і, аказваецца, нават — «за полное объединение с ней». Вось як артыстычна можна тлумачыць няпэўныя фармулёўкі пытанняў рэферэндуму!

Што да тэмы развалу Саюза, то тут карэспандэнт «Завтра» лоўка падкідвае народнаму артысту СССР адпаведную рэпліку: маўляў, «прыведзены ў дзеянне славуты план Далеса». І Мікалай Мікалаевіч ахвотна рэпліку падхоплівае, пераводзячы заадно ўвагу на сваю асобу: «Я, кстати, писал и говорил об этом в декабре 1992 года в интервью «Правде» и цитировал (?) этот негодяйский план уничтожения Союза и не только его». Цытаваў! Здабыўшы неяк сакрэтны план ЦРУ? Ці чарговую «дэзу-вутку» слаўнага 9-га аддзела КДБ? Пасля чаго яму падалося дарэчным прычапіцца да Беларускага Народнага Фронту, які нібыта ўсё, зробленае за савецкі час у культуры, хоча разбурыць «да нуля» — па сцэнару бальшавікоў, выходзіць. А прычапіўшыся да БНФ ды звязаўшы яго такім чынам з «нячыстай сілай», следам ужо можна садануць па «белорусскоязычных» ды па «демократической» (узяўшы эпітэт у здзеклівыя двукоссі) інтэлігенцыі, якая, па меркаванні М.М.Яроменкі, аказваецца, «принимая законы о языке» (не Вярхоўны Савет?), «пошла по радикально-насильственному пути (?!) и вызвала обратную реакцию». А следам той жа, выходзіць, «демократической» прышпільваецца віна, што знікаюць «три великолепных самобытнейших фольклорных ансамбля — Цитовича, Жиновича и Ширмы», якія «ўзніклі... не сёння». Гэта праўда — не сёння. Нараджэнне іх пачалося яшчэ практычна да рэвалюцыі, калі пачаўся інтэнсіўны рух народа за сваю беларускасць, атрымаўшы энергію для развіцця ў тых шматлікіх гуртках і народных хорах, якія па ініцыятыве Беларускай рабоча-сялянскай грамады ды Таварыства беларускай школы ўзнікалі амаль ці не ў кожным паселішчы і мястэчку ў часы змагання за беларускую школу і нацыянальную культуру ў Заходняй Беларусі. Ды не, гісторыя векавой барацьбы беларусаў за самабытнасць праходзіць міма ўвагі народнага артыста СССР. Затое ён, спасылаючыся на ўласны радавод, заўзята прапагандуе звышінтэрнацыяналізм: «Во мне, — кажа, — четыре славянских крови (выходзіць, не адна — проста славянская, а ўсе ж **чатыры! — Э.Я.**): дед — белорус, бабка — полька, другой дед — украинец, а вторая бабка — русская, сибирячка... Так что для меня не существует вопроса: быть ли нам вместе? Только вместе!» Тады, мо, спытаўся б шаноўны Мікалай Мікалаевіч у сваёй польскай радні: а самі палякі хочуць гэтага «вместе»? Ці яны дзеля жарту прымусілі падаць у адстаўку свайго прэм'ер-міністра Алексы за тое, што ён сябраваў (толькі, а не ўводзіў ва ўрадавы кабінет!) з савецкім агентам КДБ? А як з «украінскай крывёю»? На Украіне ж, перш чым залічыць «саюзаўскага» афіцэра ў нацыянальнае войска, адпаведная камісія прама пыталася: калі давядзецца абараняцца супраць Расіі, ты гатовы? Гэта што, таксама па разраду гумару?

А дарэчы, ужо колькі можна гаварыць, што Расія ніякая не славянская дзяржава, інакш іншыя народы, якія ўваходзяць у федэрацыю, набываюць статус другасных ці асіміляваных. Так што педаліраваць на «славянстве», значыць рабіць Расіі сапраўды «мядзведжую паслугу».

Канешне, хай бы сабе Мікалай Мікалаевіч Яроменка выказваўся як хацеў. Праўда, шкада ягонага таленту, шкада, што бярэцца граць ролю зашоранага славянасабораўца, а не імкнецца спасцігаць — а што адчувае сам беларускі народ. Не запалоханыя ды задураныя пэўнага кшталту прапагандай люмпены, а людзі годныя і свядомыя, тая ж нацыянальная інтэлігенцыя, якой супрацьпастаўляе сябе М.М.Яроменка. Сустрэўся б калі са студэнтамі. Ды і з народафронтаўцамі — гэта ж не ізгоі нейкія, не пракажоныя, а большасцю простыя рабочыя, пенсіянеры, навучэнцы. Толькі больш нацыянальна свядомыя, толькі ўжо гатовыя нешта рабіць дзеля дабрабыту Беларусі, яе народа. А так... Магчыма, і сам Мікалай Мікалаевіч ведае, як ацэньваюць яго цяперашнюю пазіцыю сумленныя расійскія інтэлігенты.

Урэшце, паўторым, гэта зноў жа асабістая справа М.М.Яроменкі, як распарадзіцца нажытым аўтарытэтам мастака. Каб не адно вельмі істотнае «але». Ён — высокапастаўлены функцыянер, прэзідэнт Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў, з Прэзідэнтам рэспублікі прынародна абдымаецца. І ад яго настрою, прыхільнасці ці антыпатый вельмі залежыць, ці будзе падтрыманы сапраўдны нацыянальны **беларускі** (падкрэслім) талент. А што калі ўгледзіць у ім Мікалай Мікалаевіч «нацыяналіста» і «бэнээфаўца»? Ды пры ягоных жорсткіх славянасабораўскіх перакананнях у спалучэнні з характарам! Вось жа ў чым справа.

А што да «7 дней», то ў тым жа нумары (№ 6, 1996), дзе выступае М.М.Яроменка, газета, імкнучыся «ўесці» «нацыяналістычную» Эстонію, дзе «самы высокі ўзровень злачыннасці ў Балтыі» (Расія ўсё роўна тут наперадзе), прапусціла неяк і такі радок: «Арганізаваная злачыннасць асабліва моцная ў рускамоўных раёнах паўночна-ўсходняй часткі Эстоніі». Ёсць над чым паразважаць.

**Эрнэст ЯЛУГІН.**

# *Чанстахоўская ікона Божай Маці*

Пачатак вясны (6 сакавіка па ст.стылі і 19 сакавіка па новым стылі) сваім добрадатным Пакровам асвячае Чанстахоўская ікона Божай Маці, у якой усе вернікі просяць сямейнага шчасця і ўзаемнага кахання. Асабліва шануецца гэты абраз на Віленшчыне, Заходняй Беларусі, Беласточчыне і Падляшшы. Лічыцца, што копія гэтай іконы была прыслана святой Ефрасінні Полацкай з Канстанцінопаля.

На Яснай Гары, паблізу маляўнічага польскага горада Чанстахова, знаходзіцца Чанстахоўскі каталіцкі манастыр, у якім захоўваецца старажытны цудадзейны абраз Божай Маці, вядомы як Чанстахоўскі.

Існуе меркаванне, што святы евангеліст Лука напісаў усяго каля 70-ці ікон Божай Маці. Царкоўнае паданне сцвярджае, што ікона Божай Маці Чанстахоўская была напісана евангелістам Лукою ў Іерусаліме ў Сіёнскім хораме, у якім Уладар наш Ісус Хрыстос здзейсніў Тайную Вячэру перад сваімі святымі пакутамі і ўшэсцем, пасля чаго Дух Святы зышоў на апосталаў.

У 66—67 гг. н.э., калі на Іудзею напалі рымскія войскі на чале са славутымі тады палкаводцамі Веспіянам і Цітам, якія мелі на мэце поўнасцю пазбавіць Іудзею палітычнай самастойнасці. Хрысціяне, ведаючы гэта і баючыся разбурэння Іерусаліма, своечасова схаваліся паміж гор у мястэчку Пелу. Разам з іншымі святынямі яны перанеслі ў пячору і Чанстахоўскую ікону Божай Маці.

У 326 г. наведала Іерусалім святая царыца Алена з мэтай адшукання Крыжа Гасподня. Жыватворны Крыж Гасподняў быў знойдзены і ўздзвігнуты. У падзяку за гэта веруючыя падарылі святой падзвіжніцы Чанстахоўскую ікону. Святая царыца прывезла яе з сабою ў Царград і паставіла ва ўласнай дамовай капліцы.

У Канстанцінопалі гэтая ікона знаходзілася каля 5 стагоддзяў, потым асвяціла Балгарыю, Маравію, Чэхію. Прынёс яе на землі Вялікага Княства Літоўскага (якое яшчэ толькі складвалася) князь Леў, вядомы як заснавальнік Львова ці Лемберга.

Шматлікія цуды былі яўлены ад гэтай іконы на Бельскіх землях у праваслаўных («грэцкага закона») святынях. Асвяціла цудадзейная ікона Чанстахоўская і Польскую Карону, князя Уладзіслава з Аполля. У час мангола-татарскага нашэсця захопнікі асадзілі Бельскі замак. Цудадзейная ікона была пранесена Хрэсным Ходам і пастаўлена на гарадской сцяне. Татары, страляючы ў камяніцу, паранілі абраз Божай Маці. Адразу (які быў жах і дабрадатнае здзіўленне ва ўсіх!) з язвы выцекла кроў. Крыжовыя палосы ад раны і зараз бачныя на святым абліччы Божай Маці. Але адразу пасля гэтага дзікунства ахапіла рабаўнікоў нейкая імгла-пошасць, ад якой яны пачалі паміраць сотнямі і дзесяткамі соцень. Жах прымусіў захопнікаў спыніць асаду замка.

Пасля знікнення татараў князь Уладзіслаў пажадаў перанесці цудадзейную ікону Божай Маці ў Сілезію, як больш бяспечнае месца, і паставіць яе ў сваёй крэпасці Аполлі.

Але шэсце не зварухнулася, на ўсіх напаў невядомы і незразумелы страх, князь укленчыў перад святой іконаю і доўга маліўся Нябеснай Царыцы, просячы ўразумлення Божага. У празрыстым стане князь пачуў голас Царыцы Нябеснай, які загадваў перанесці Яе ікону на Ясную Гару Чанстахоўскую. Князь пабудаваў на Яснай Гары манастыр, а ў 1382 г. перанёс у яго цудадзейную ікону, аддаўшы яе на захаванне манахам Паўліканскага ордэна.

Нападалі на Чанстахоўскую абіцель і гусіты. Завалодаўшы манастырскімі скарбамі, яны пажадалі знесці і цудадзейны абраз Божай Маці, вядомы сярод іх як агульнахрысціянскі. Але Божая сіла не дазволіла ім крануцца з месца. Дзёрзкае багахульніцтва авалодала гусітамі, іхнія пошукі святой ісціны абярнуліся звычайным святатацтвам: адзін з іх, схапіўшы святую ікону, кінуў яе на зямлю, іншы замахнуўся на яе мячом. І ў той жа момант дзёрзкія багахульнікі адчулі на сабе гнеў Божы: першы адразу памёр, у другога адсохла рука, якой ён замахнуўся на святое аблічча, астатнія або ў хуткім часе загінулі, або раптоўна аслеплі. За грахі насельнікаў манастыр быў пазбаўлены свецкіх скарбаў, але Нябесны скарб — святая ікона, па бясконцай міласэрнасці Божай, — захавалася.

У сярэдзіне XVII ст., калі польскім каралём стаў Ян Казімір (бацька якога кароль Казімір быў надзвычай набожным), шведскі кароль Карл X Густаў, нашчадак святой Хрысціны, авалодаў Варшавай і Кракавам, захапіўшы амаль усю Польшчу. Пакаяльныя малітвы насельнікаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай былі пачутыя, і ўпершыню шведскія войскі адступілі пад Чанстахоўскім манастыром, што на Яснай Гары.



Удзячны за дапамогу Царыцы Нябеснай кароль Ян Казімір (які пасля перамогі ўсё ж здолеў аб'яднаць войскі), вярнуўшыся з Сілезіі ў Львоў, абвясціў маніфест, у якім даручаў апеку над сваёй дзяржавай, кіраванне ёй Божай Маці, надаючы ёй ганаровае званне Каралевы Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. І гэта была даніна народнай традыцыі, бо першыя датаваныя духоўныя песні прысвечаны былі Божай Маці, Нябеснай Царыцы ўсіх славянскіх зямель.

Цуды ад святой іконы запісваліся ў спецыяльнай кнізе Чанстахоўскага манастыра. Шматлікія копіі са святой іконы захоўваюцца ў праваслаўных і каталіцкіх храмах і манастырах. Нельга не згадаць некалькіх паданняў пра цуды ад святой іконы.

У 1740 г. у мястэчка Тыўрава на Вінніцкіх землях прыехалі мясцовы мастак і кравец іудзейскага паходжання. У пакоі, дзе яны пачалі працаваць, знаходзіўся спісак з іконы. Незвычайным дабрадатным ззяннем іконы былі ўражаны ўсе, а кравец адразу пажадаў прыняць святое хрышчэнне. А святая копія іконы была пастаўлена ў алтары мясцовага храма.

Вядомыя і шматлікія выпадкі ацаленняў ад святой іконы. Сялянка Аксіння Белая, 19-гадовая дзяўчына з валынскай вёскі Пісарэўка, вельмі пакутавала: часамі яна страшэнна крычала, ірвала на сабе валасы і адзенне. Ацалілася яна пасля малебна з вадасвяццем перад цудадзейнаю іконай. Было гэта ў чэрвені 1884 г. Дзіцятка Марыя Охрына з тых жа мясцін ацалілася ад канвульсіяў пасля прыняцця Святых Хрыстовых Тайнаў перад цудадзейнай іконай (1890 г.). А цяжка хворая на тыф Дар'я Вербахоўская, якая не магла рухацца, пасля таго, як убачыла святое аблічча, адразу ачуняла і набыла здольнасць хадзіць. У 1848 г. памешчык Альфераў на паляванні прастрэліў нагу, лекары не маглі загаіць рану, але па шчырай малітве ім было атрымана ацаленне. Жонка генерал-маёра Рахманава Елізавета, уладарка сяла Вялікі Бобрык, што на Харкаўшчыне, страціла мову і слых, але пры ўнясенні святой іконы ў вёску яна пачула званы ў храме і пачала чытаць услых малітвы.

Імператар Аляксандр І упрыгожыў спіс гэтай іконы багатай шатаю і каштоўнымі камянямі, паставіўшы яе ў Санкт-Пецярбургскім Казанскім саборы ў прыдзеле Ражства Божай Маці ў левага кліраса. Перад гэтай іконай гарэла Непагасная Лампада.

Адзін таленавіты мастак Іван Венжын з гарадка Саколкі, што ў Беластоцкім краі, вельмі жадаў напісаць Чанстахоўскі абраз Божай Маці для мясцовай царквы. Але, нягледзячы на сваё шчырае імкненне, цярплівасць і майстэрства, ён ніяк не мог зрабіць гэта. Іван Венжын быў блізкі да адчаю і наракаў на сябе, чаму ён пагадзіўся зрабіць немагчымае. Але Маці Божая прыйшла яму на дапамогу і Сама пакінула Сваю святую выяву. І калі Іван Венжын увайшоў у сваю майстэрню (о, наколькі ён быў здзіўлены!), абраз быў ужо напісаны з дзіўным майстэрствам і ў поўнай адпаведнасці з арыгіналам. Да таго ж святы Голас Царыцы Нябеснай загадаў: «Ва ўзнагароду за тваю стараннасць абраз ужо напісаны, вазьмі яго і аднясі ў Сакольскі саборны храм».

Сярод духоўных багамольных, лірніцкіх песень асаблівае месца займаюць прысвечаныя менавіта гэтай іконе:

Святая Маці Божая, малі Сына Твайго Госпада Ісуса Хрыста выратавацца душам нашым.

**Алена ЯСКЕВІЧ.**

# Шлях да самаўдасканалення

Адно за адным ідуць хрысціянскія святы... За Калядамі — Стрэчанне, за Стрэчаннем — Звеставанне... Але жыццё хрысціяніна складаецца не толькі са святкаванняў, але і з абавязковых добраахвотных самаабмежаванняў, духоўнага і фізічнага самаўдасканалення, чаму служаць малітва і пост.

Вялікі пост доўжыцца сем тыдняў перад Вялікаднем, яго пачатак звычайна супадае з пачаткам вясны. Ён складаецца з саракадзённага посту (Чатырадзесятніцы) і Страсной сядміцы дзеля выратавальных пакутаў Хрыстовых. У Вялікі пост царкоўны статут дазваляе ўжываць алей толькі па суботах, нядзелях і ў дні памяці асабліва шаноўных святых, а рыбу — толькі ў святы Дабравешчання (7 красавіка) і Уваходу Госпада ў Ерусалім (Вербная нядзеля). З ежы зусім выключаюцца тлушч, мяса, усе малочныя прадукты. Кожны тыдзень Вялікага посту прысвечаны той ці іншай падзеі біблейскай гісторыі. Першая сядміца, «Даравальная», вызначаецца асабліва строгім постам. У Даравальную нядзелю перад першай сядміцай успамінаецца першародны грэх чалавецтва. Другая сядміца і нядзеля мае назву Светлатворных пастоў. Царква моліцца аб жыватворным прасвятленні ўсіх, хто посціць і каецца. Трэцяя нядзеля Вялікага посту і наступная за ёй сядміца называецца Крыжапаклоннай, бо Царква ўслаўляе Святы Крыж і духоўныя плады смерці на Крыжы Збавіцеля. На чацвёртым тыдні Вялікага посту адбываецца свята Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы. У нядзелю ўслаўляецца святы прападобны Іаан Лесвічнік, які жыў у VII ст., аўтар кнігі «Лесвіца раю». Пятая нядзеля Вялікага посту прысвечана святой Марыі Егіпецкай. Жыццё самадайкі, якая пакаялася, вучыць нас, што ніякія грахі і беззаконнасць не могуць быць непераадольнай перашкодай на шляху чалавека да Бога, калі толькі гэты прыход дапаўняецца постам, малітваю і шчырым пакаяннем. У суботу шостай сядміцы ўспамінаецца цуд уваскрашэння Госпадам Ісусам Хрыстом Свайго сябра Лазара. У нядзелю шостай сядміцы святкуецца Уваход гасподзень у Ерусалім, Вербніца. І, нарэшце, перадвялікодная сядміца прысвячаецца ўспаміну апошніх дзён зямнога жыцця Збавіцеля. Яго пакутам на крыжы, смерці і пахаванню.

У чым сэнс хрысціянскіх постаў? Цяпер занадта часта зводзяць іх да народнай мудрасці, якая патрабавала час ад часу ў пэўныя перыяды ачышчаць арганізм ад «шлакаў», балансаваць харчаванне... Такім чынам пост прыроўніваецца да дыеты... Але Іаан Златавуст казаў: «Хто абмяжоўвае пост толькі ўстрыманнем ад ежы, той больш за ўсё ганьбіць яго. Ты пасцішся? Давядзі мне гэта сваймі справамі... Што за карысць, калі мы ўстрымліваемся ад птушак і рыб, а братоў кусаем і з'ядаем?» Так, пост перш за ўсё — духоўнае ўдасканальванне, заснаванае на прынцыпе самакантролю. Тым больш што вытрымліваць пост у харчаванні рэкамендуецца толькі тым, каму гэта па сілах, каму гэта не нашкодзіць. Хворыя людзі, цяжарныя жанчыны, тыя, хто падарожнічае, цяжка фізічна працуе, ад посту вызваляюцца. Той, хто посціць, мусіць адчуваць не прыгнечанасць і фізічную знясіленасць, а духоўнае прасвятленне, лёгкасць, іначай пост можа быць нават шкодным. Як напісаў А.Мень, «пост можа быць шкодным для душы ў тым выпадку, калі чалавек робіць з яго «культ» і адчувае сваю перавагу над іншымі». Святы прападобны Марк казаў: «Пост, як прыносіць карысць тым, хто разумна да яго ставіцца, так і шкодзіць неразумна яго пачынаючым. Таму тыя, хто клапоціцца пра карысць посту, павінны берагчыся шкоды яго або пыхлівасці». Кожны павінен выбіраць выпрабаванне па сваіх сілах, а дакладней — па сваёй веры. І прайсці скрозь выпрабаванне постам таксама не ўсім па сілах. Але — як мы можам не паспрабаваць ступіць на ўказаны нам шлях да выратавання? На заканчэнне прывядзём выказванне мітрапаліта Антонія: «Пост — гэта перш за ўсё рух, актыўнасць духу, барацьба з недасведчанасцю, лянотай, спешчанасцю, расслабленнем волі і цела. Гэта барацьба за жыццё, за волю духа ад звыклага рабства».

**Л.Ш.**

# Свет Новага Запавету

*Чытаючы Новы Запавет, мы часта сустракаем там словы, якія гавораць аб прыналежнасці той ці іншай асобы да нейкага аб'яднання, секты ці супольнасці, на якія падзялялася тагачаснае грамадства. Садукеі, фарысеі, зілоты ды іншыя — кім яны былі і якое дачыненне мелі яны да хрысціянства — сусветнай рэлігіі, якая паўстала ў іхнім асяроддзі дзве тысячы гадоў таму?*

## *Садукеі*

Так яшчэ да нараджэння Хрыста пачалі называць святароў юдзейскага культу Яхвэ. Садукеямі не рабіліся — гэта была родавая духоўная арыстакратыя, у якой пасады перадаваліся ў спадчыну. Нават назва «садукеі» сведчыла аб прыналежнасці іх да святарскага роду Садокаў, колькасць нашчадкаў якога ў часы Хрыста складала каля 1500 асобаў. Спасылаючыся на каноны сваёй веры, садукеі фактычна пераянялі цывільную ўладу ў Юдзеі, якую яны захавалі як пад уладаю Вавілона, так і ў часы прыналежнасці іх краю да дзяржавы Аляксандра Вялікага, а потым да Рымскай імперыі.

Садукеі былі служыцелямі Ерусалімскай святыні — духоўнага цэнтра культу Яхвэ. Атрымліваючы на патрэбы святыні дзесяціну ад кожнага верніка, які жыў у межах імперыі, садукеі засяродзілі ў сваіх руках нязмерныя багацці. Як сведчыць Цыцэрон, Флак, які ў 61—59 гадах да н.э. быў намеснікам у рымскай правінцыі Азіі (заходняй частцы Малой Азіі), у горадзе Аламеі за адзін толькі раз канфіскаваў 100 фунтаў золата, сабраных мясцовымі юдзеямі для Ерусалімскага храма.

Імкнучыся аблегчыць цяжар іншаземнага панавання ў Палесціне, садукеі сталі перад выбарам на карысць паўстання ці супрацоўніцтва з чужынцамі. Яны абралі другі шлях, вынікам чаго стаў адыход вышэйшага юдзейскага святарства ад нацыянальнай культуры і яго хуткая элінізацыя, бо менавіта грэцкія дынастыі — Селеўкідаў і Пталемеяў — валадарылі ў чаргова пануючых над Юдзеяй Вавілоне і Егіпце. На грэцкія змянялі свае імёны нават першыя святары Ерусалімскай святыні. Эліахім стаў Алкімам, Манасія — Менелаем. Большасць юдзеяў з пагардаю ставілася да гэтых зменаў. Да таго ж садукеі не прызнавалі народную веру ў боскае наканаванне, бессмяротную душу і цялеснае ўваскрашэнне, што яшчэ болей аддаляла іх ад простага народа. Не спрыяла аўтарытэту садукеяў і тое, што галоўны сярод іх — першасвятар Ерусалімскай святыні — і ў час вавілонска-сірыйскага, і ў час егіпецкага ўладарання атрымліваў права адкупаць падаткі — г.зн. выплачваў іх наперад, а потым з ліхвой спаганяў з насельніцтва. Таму садукеі, нягледзячы на сваю нянавісць да заваёўнікаў, сваім аўтарытэтам і сваімі дзеяннямі замацоўвалі іхнюю ўладу.

Але моцная ў часы Хрыста супольнасць садукеяў без следу знікла ў час нацыянальнай катастрофы юдзеяў, што адбылася ў 70-м годзе, калі была знішчана іхняя дзяржава і разбураная Ерусалімская святыня.

**У.П.**

**ВУЧЫМСЯ**

**Практычная стылістыка**

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# «Загадчык абавязаны...»

*У нашай літаратуры ёсць выдатныя прыклады высокага густу ў галіне мовы, прыгоднай для самых розных стылёвых мэт — і мастацкай літаратуры, і публіцыстыкі, і нашага справаводства. Дрэнна толькі, што лепшыя здабыткі нашых пісьменнікаў-стылістаў застаюцца прыватнай іх прывілеяй, не распаўсюджваюцца, не пераймаюцца.*

**Васіль Быкаў.**

У словах Васіля Быкава дакладна акрэслена праблема, прыдатная для разгляду ў нашай рубрыцы «Практычная стылістыка». Гаворачы пра стыль афіцыйнага выказвання, мы ўжо звярталіся да аўтарытэтаў Максіма Лужаніна і Фёдара Янкоўскага. Праблемы стылістыкі закраналі многія пісьменнікі і навукоўцы, напрыклад, Ян Скрыган, Кузьма Чорны, Рыгор Шкраба, Уладзімір Дубоўка, Якуб Колас, Васіль Вітка і інш. Да іх вопыту і назіранняў мы абавязкова будзем звяртацца, бо назапашаныя стылістычныя веды надзвычай патрэбныя ў моўнай практыцы.

Для «трэнінгу» разгледзім вытрымку з афіцыйнай інструкцыі, якая выпадкова трапіла да мяне некалькі год таму. Гэты дакумент створаны дзеля спраўнага функцыянавання інтэрнатаў, прызначаны наладзіць і растлумачыць пэўныя юрыдычна-прававыя адносіны, аднак стыль, форма падачы зместу не спрыяюць, а перашкаджаюць адэкватна яго разумець. У прычынах гэтага паспрабуем разабрацца. Цытую: *«Заведуючы*(?) *абавязан арганізоўваць работу па падтрыманню ў інтэрнаце і на яго тэрыторыі чысціні і парадку, выкананню пражываючымі правілаў унутранага распарадку і тэхнікі бяспекі, правядзенню санітарных дзён па прыбіранню памяшкання і тэрыторыі»*. Адразу выправім прыкрую памылку: слову **заведуючы** ў беларускай мове ёсць нарматыўны адпаведнік ***загадчык;*** вельмі няўдалае, бо нехарактэрнае слоўтваральнай сістэме, слова **пражываючыя** варта замяніць на агульнаўжывальны аднакарэнны назоўнік ***жыхары***. Цяпер звернем увагу на немілагучныя формы — **па падтрыманню** і **па прыбіранню**, якіх пажадана пазбягаць. Асноўная хіба стылю заключаецца ў нагрувашчванні сінтаксічных структур аднароднага падпарадкавання, што перашкаджае іх лагічнаму чляненню і разуменню. Да таго ж дапушчана сінтаксічная памылка, характэрная пры сінтаксічным развіцці аддзеяслоўных назоўнікаў — нанізванне склону (родны склон у кампанентаў словазлучэння **правілаў унутранага распарадку і тэхнікі бяспекі**).

Каб гарманізаваць форму і змест, неабходна таксама пазбегнуць дубліравання інфармацыі. У прыведзенай вытрымцы нясуць часткова тоесную інфармацыю пачатковыя і заключныя словы (**падтрыманне ў інтэрнаце чысціні і парадку/правядзенне санітарных дзён па прыбіранню памяшкання і тэрыторыі**; тоесныя па зместу і словазлучэнні **санітарныя дні/прыбіранне памяшкання і тэрыторыі**).

Улічыўшы ўсе заўвагі, можна прапанаваць некалькі варыянтаў выпраўлення. Для большай выразнасці можна выкарыстаць і графічнае вылучэнне зместу.

1. Загадчык адказвае за чысціню і парадак у інтэрнаце і на прылеглай тэрыторыі; сочыць за выкананнем жыхарамі правіл унутранага распарадку і тэхнікі бяспекі.

2. У абавязкі загадчыка інтэрната ўваходзіць:

— прыняцце мер па захаванні ў інтэрнаце і на прылеглай тэрыторыі чысціні і парадку;

— арганізацыя санітарных дзён;

— кантроль за выкананнем правіл унутранага распарадку і тэхнікі бяспекі.

Спадзяюся, чытачы змогуць прапанаваць і свае варыянты.

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЛЮ́ХНУЦЦА** (упасці з шумам, з глухім гукам; упасці ў ваду або іншую вадкасць) *Паўлік ужо не мог спыніцца. Ён з разбегу плюхнуўся жыватом каля ўваходу ў юрту* (Беразняк). *Тараска хацеў спыніцца, але тут нібы хто штурхнуў яго. Утрымацца ўжо не было сілы, і ён плюхнуўся з усяго размаху ў лужыну* (Юрэвіч), **ПЛЮ́ХНУЦЬ** *Затаіўшы дыханне, усе сачылі, як ён [дзядзька Мікіта] асцярожна, стараючыся не плюхнуць, пасоўваўся наперад* (Рунец). *Трывога нарастала. Нехта кінуў вінтоўку. Яна мякка плюхнула ў ваду і пайшла на дно* (С.Александровіч), **ПЛЁХНУЦЦА** *Ён [чалавек] усёй тушаю плёхнуўся з мастка ў ручай* («Маладосць»), **ПЛЁХНУЦЬ** *Ясь так імпэтна рвануў вуду, што рыбка бліснула ў паветры і плёхнула, сарваўшыся з кручка, назад у ваду* (Міська), **ПЛЁХКАЦЬ** разм. (толькі ў незакончаным трыванні) *Сібількі плёхкаюць у ваду, трохі адплылі, а пасля некаторыя пакладаліся на бок, бліскаючы на сонцы блакітна-срэбнай луской* (Шынклер), **ПЛЯ́СНУЦЦА** разм. (упасці з шумам) *Мужчына, нібы мяч, адляцеў назад, спатыкнуўся аб табурэт і з усяго размаху пляснуўся на падлогу* (Шамякін), **ПЛЯ́СНУЦЬ** разм. *Прыпыніўся [Ромацька], паслухаў — ніякага груку не атрымалася, толькі пляснула нешта, быццам хто кінуў праз акно дохлую жабу* (Кулакоўскі), **ШЛЁПНУЦЦА** разм. *Салдаты выпусцілі з рук вязня, і ён глуха шлёпнуўся ў кузаў, упаў і адразу закалаціўся ад рыданняў* (Асіпенка), **ШЛЁПНУЦЬ** разм. *Бутэлька шлёпнула, рукі таўстамордага аслаблі. Агідная здань пляснулася на падлогу* (Асіпенка), **ХЛЁПНУЦЦА** разм. *Гаўрыла як сядзеў, так і хлёпнуўся аб зямлю нежывы* (Гарэцкі), **ХЛЁПНУЦЬ** разм. *Хлёпнуць у лужыну. Хлёпнуць на слізкім месцы,* **ПЛЁСНУЦЦА** разм. (упасці з шумам пераважна ў ваду) *Рыбіна выслізнула з рук і плёснулася ў ваду,* **ПЛЁСНУЦЬ** разм. *Па калені ў пяску нараўлянскія сосны, І не выбрацца соснам на бераг круты, І ніколі іх шышкі у Прыпяць не плёснуць. Калі іх не закоцяць гарэзы-вятры* (Верамейчык), **БАЎТАНУ́ЦЦА** разм. (упасці або кінуцца з шумам у ваду) *Баўтануцца ў возера,* **БАЎТНУЦЦА** разм. *Хлопчык баўтнуўся ў рэчку,* **БАЎТАНУ́ЦЬ** разм. *— Плывём дык плывём! Каб не баўтануць хаця!.. — пляснула жанчына ў далоні* (Лецка), **БАЎТНУ́ЦЬ** разм. *Жаба баўтнула ў ваду,* **БО́ЎТНУЦЦА** *Чуваць, як боўтнуўся бабёр Каля карчоў у раску* (Бялевіч), **БО́ЎТНУЦЬ** *Вунь боўтнула з разгону лягушка, аж пырскі дасталі да задзірыстага Паўлікавага носа* (Даніленка), **БУЛТЫХНУ́ЦЦА** разм. *Аступіўся хлопчык і, паслізнуўшыся, бултыхнуўся ў ваду, нават не крыкнуўшы* (Машара), **БУЛТЫХНУ́ЦЬ** разм. *Смялейшым за ўсіх аказаўся Барашка, а за ім бултыхнуў і Александровіч* (Хведаровіч), **БАЎТЫХНУ́ЦЦА** разм. *Праз некалькі хвілін з ходу [Рыгор і Равік] баўтыхнуліся ў ваду. Удвух, узяўшыся за рукі, перамаглі плынь* (Лецка), **ШАБУЛДЫ́ХНУЦЦА** разм. *Страціўшы раўнавагу, Сомік шабулдыхнуўся ў калатушку і ўехаў аж па пояс* (Крапіва), **ШАБУЛТЫ́ХНУЦЦА** разм. *Шабултыхнуцца ў балота,* **ШАБУЛДЫ́ХНУЦЬ** разм. *Шабулдыхнуць у твань,* **ШАБУЛТЫ́ХНУЦЬ** разм. *Аб'ехаў [Літавар] на коленкі і, не помнячыся, стаў прадзірацца праз росную шорсткую траву да рэчачкі, нечакана шабултыхнуўшы ў халодную ваду і быдта апрытомнеўшы* (В.Адамчык), **БУ́ЛЬКНУЦЬ** разм. (упасці ў ваду, утварыўшы характэрны гук) *Камень булькнуў і пайшоў на дно. Што гэта за істота паказала з вады чорны хіб, булькнула, аж зазвінеў хвалісты круг, і знікла?* (Кірэенка), **ШМЯ́КНУЦЦА** разм. (упасці з глухім гукам) *— Ілжэш! — гаркнуў на яго на ўвесь голас Аляксей Аўдзейчык і так тузануў за плячо, што Выжлік шмякнуўся на лаўку* (Дуброўскі), **ШМЯ́КНУЦЬ** разм. *Следам за гэтым воклічам ззаду за Валодзем і Жэнем нешта гучна шмякнула і дробна затупацелі ногі* (Новікаў), **ЧМЯ́КНУЦЦА** разм. *Можа за дзесятаю спробаю я дацягнуўся да дзіркі ў зашчытку. Пераваліўся на другі бок і чмякнуўся снопам на зямлю* (Мыслівец), **ЧМЯКНУЦЬ** разм. *Цяжка чмякнула нешта ў траве збоку. — Глядзі! — Гукан трымаў у руцэ вялікага акуня, і твар яго ззяў ад шчасця* (Шамякін), **ЧВЯ́КНУЦЦА** разм. *Люська заплакала, выпусціла гусака, і ён глуха чвякнуўся на падлогу* (Марціновіч), **ЧВЯ́КНУЦЬ** разм. *Пасля пачуў [Андрэй], як блізка, недзе ўперадзе, нешта чвякнула на зямлю ў мох, як цвёрды качан у кадзь зверху на шаткаваную капусту* (Пташнікаў), **ЧВА́КНУЦЦА** разм. *Жыццё дае бачыць і тварыць... падрань яго, — і ты не птушка, ты — камяк, ты чвакнешся ў снег у гразь. Жыццё — гэта крылы* (Пташнікаў), **ЧВА́КНУЦЬ** разм. *Палена чвакнула ў гразь,* **ЧМО́КНУЦЦА** разм. *Недзе побач на зямлю чмокнуўся снарад* (Русецкі), **ПО́КНУЦЬ** разм. (упасці з гукам «пок» — звычайна пра плады, прадметы) *Я цірнуў плячом аб падпорку, што стаяла каля самай сцежкі-баразны, і на граду глуха покнуў яблык* (Б.Стральцоў).

*(Працяг будзе.)*

**Культура мовы**

*Павал СЦЯЦКО*

# Непатрэбныя дублёры

«**Нарадзілася тройня.** Случчане вадзіцель Васіль і бухгалтар Наталля Сыцько з хваляваннем чакалі дзіця. Маці ўжо споўнілася 32 гады. І тут такая радасць. Амаль на Новы год лёс падараваў шчаслівым бацькам **трайнят** — дзвюх дзяўчынак і хлопчыка... У мінулым годзе ў Слуцку нарадзіліся аж тры **тройні**» («Голас Радзімы» за 11 студзеня 1996 года). Як бачым, аўтар (ці перакладчык) у зацемцы «Навагодні падарунак. — **Нарадзілася тройня**» падае натуральнае беларускае слова **трайняты** і разам з тым пазычанне з расійскай мовы **тройня**.

У беларускай мове блізняты называюцца — паводле іх колькасці — адлічэбнікавымі ўтварэннямі з тым самым словаўтваральным сродкам — **-анят-ы (-янят-ы)** (і яго скарочаным варыянтам **-нят-ы**), што і ў назвах маладых істотаў: дзіцяняты, гусяняты, кураняты... Таму і заканамерныя назвы блізнятаў: двайняты, трайняты, чатырняты... А ў народнай мове — і дваяняты, траяняты, чатыраняты (з нескарочаным суфіксам **-анят-ы**: двай-аняты, трай-аняты, чатыр-аняты). Дарэчы, этымалагічна гэты суфікс **-нят-ы (-янят-ы)** мае і слова блізняты (ад блізкі: бліз-няты).

Расійская **двойня, тройня** беларускія слоўнікі перакладаюць сваімі словамі на **-няты.** Так, у «Русско-белорусском словаре» пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953) чытаем: «**Двойня** ж. разг. **двайняты**...» (с. 108); «**Тройня** ж. **трайняты**» (с. 694). І ў перавыданні 1982 года ў томе І на с. 198 бачым тое самае: «**Двойня** ж. **двайняты**, ед. нет». А вось у другім томе (с. 496) гэтага слоўніка ў перакладзе ўжо з'явіўся дублёр да беларускага слова: «**Тройня** ж. **трайняты**, мн., **трайня** ж.». Мусіць, адсюль яно і трапіла ў згаданы тэкст газеты «Голас Радзімы». Але даводзіцца толькі здзіўляцца такой непаслядоўнасці складальнікаў і рэдактара слоўніка Кандрата Крапівы.

«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» пад рэдакцыяй К.Крапівы не падае расійскага дублёра **трайня (тройня)** да нармаванага беларускага **трайняты.** На с. 504 у пятым томе бачым: «**Трайняты,** адз. няма. Дзеці, якія нарадзіліся ўтрая адначасова ад адной маці». А перад гэтым словам падаецца **трайня** толькі з значэннем «падоўжны брус у калёсах, які злучае пярэднюю вось з задняй». А на с. 519: «**Тройні,** адз. няма. Вілы з трыма зубамі».

Дык вось пра якое надзвычайнае здарэнне даведаюцца беларусы з згаданай газеты: пра нараджэнне не толькі траіх блізнятаў, але і... пра брус у калёсах і вілы з трыма зубамі.

Вось да чаго можа давесці неаглядная мяшанка словаў з розных моваў! На вялікі жаль, з такою трасянкаю нярэдка даводзіцца сустракацца чытачам і пры выкарыстанні самых перакладных слоўнікаў, нярэдка адрэдагаваных тым самым рэдактарам, як гэта мы ўжо бачым пры перакладзе расійскіх словаў **двойня** і **тройня** ў розных слоўніках. Дарэчы, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», які не падае **тройня** (трайня) з значэннем «блізняты», разам з тым бачым не толькі нармаванае **двайняты** (т. 2., Мн., 1978, с. 157), але і: «**Двойня,** -і, ж. Разм. Тое, што і двайняты; блізняты. Нарадзіць двойню» (с. 159).

Адсюль і блытаніна ў перыядычным друку.

**Займальная філалогія**

# Ішлі Тодар з Тадораю

«Шчасце, шчасце, якой ты масці?» — пісала колісь наша паэтка Аўгіння Кавалюк.

І напраўду, якой жа масці шчасце?

Адны кажуць — для гэтага так мала патрэбна, усяго-наўсяго, каб муж і жонка мелі адно і тое ж імя. Прыкладам, Кастусь і Кастуся,



На малюнку **Міхася Раманюка** — шчаслівая пара ў давыд-гарадоцка-тураўскім строі.

Алесь і Алеся, Мар'ян і Мар'яна, Карусь і Каруся, Настас і Настася (Насця), Караль і Караліна, Ясь і Яніна. Але такое, каб у мужа і жонкі было аднолькавае імя, надараецца, як гэта нядзіўна, вельмі і вельмі рэдка. Мо таму ў народзе і лічаць, калі муж і жонка маюць адно імя, гэта ўжо ім дакляруе шчасце.

Паданне, ці можа больш, высока сказаць, сагу пра «Шчаслівыя пары» я пачуў у Крашыне — на радзіме Паўлюка Багрыма пры якойсь размове пра яго ж.

Вядома, шчаслівая пара можа быць і пры розных імёнах. Але, калі ў пары імёны аднолькавыя, шчасце проста гарантавана. Памятаеце:

Ішоў Тодар з Тадораю,
Знайшлі лапаць з абораю.

Спытаецеся, — якое ж у іх шчасце? А як жа — знайшлі лапаць з абораю. Хіба гэта не шчасце штось знайсці? І знайшлі гэты лапаць толькі таму, што ішоў Тодар з Тадораю, а не нехта іншы. Каб быў хтось іншы, то мо б і нічога не знайшлі. А гэтыя знайшлі. Знайшлі і, як людзі з шчаслівай і разумнай пары, пачалі весела, гулліва дзяліць знаходку. Прыгадваеце:

А ты Тодар, а я Тадора,
Табе лапаць, мне — абора.

Падзялілі і пайшлі сабе, шчаслівыя, далей. І шчасце ім дало іхняе сугучча іменаў. А іншыя, рознаімённыя маглі б і пасварыцца. Часта ж здараецца: знаходка сварыць людзей. Нездарма кажуць: «З адным згубіш, дык паўбяды — з добрымі, памяркоўнымі, шчаслівымі; з другім знойдзеш, дык бяды не абярэшся — злымі, зайздроснікамі. Але з Тодарам і з Тадораю гэтага не магло стацца. Яны ж з шчаслівай пары.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**Да 300-годдзя «забароны»**

# Якой мовай і літарамі?

Нядаўна ў нашай краіне і ў Маскве была ўрачыста адзначана 90-я гадавіна з дня нараджэння выдатнага гісторыка Мікалая Мікалаевіча Улашчыка. На навуковых канферэнцыях, на вечарыне ў менскім Доме літаратара гаварылі пра навуковы подзвіг нашага земляка — падрыхтоўку да друку шматлікіх летапісаў, пра грунтоўныя даследаванні беларускай летапіснай спадчыны, гісторыі нашага народа. Мікалай Мікалаевіч Улашчык цікавіўся ўсімі праблемамі дзяржаўнага жыцця Вялікага Княства Літоўскага. У ягонай навуковай манаграфіі «Введение в изучение белорусско-литовского летописания» (М., Наука, 1985) ёсць цікавая заўвага пра шырока вядомую так званую забарону беларускай мовы ў 1696 годзе. Прачытаем гэтыя радкі.

*«Апошняй паводле часу працай (кранаючай толькі хроніку Быхаўца) з'яўляецца артыкул Ю.І.Драгуна. (Надрукаваны ў кнізе Вопросы истории. История СССР и БССР. Древний мир и средние века. Мн., 1981, вып. 8, с. 20—28). Гэтая праца невялікая. Сама больш вартасным у ёй з'яўляецца пералік храналагічных недакладнасцяў хронікі.*

*Аўтар памылкова ўяўляе сабе пастанову Варшаўскай генеральнай канферэнцыі ад 29 жніўня 1696 года аб замене «рускай» (г.зн. старабеларускай) мовы польскай. Драгун піша, што «копія з хронікі Быхаўца была знята яшчэ да выдання закона 1697 г.* (? — **З.С.**) *аб увядзенні на тэрыторыі Беларусі польскай мовы і лацінскага алфавіту». Тут адразу некалькі памылак: згаданая пастанова датычылася не адной Беларусі, а ўсяго Вялікага Княства Літоўскага; пра алфавіт там нічога не сказана, таму што пра гэта не было сэнсу і гаварыць, бо палякі карысталіся толькі лацінскім шрыфтам і, значыць, пераход з старабеларускай на польскую аўтаматычна азначаў пераход з кірыліцы на лацінку;* ***у пастанове гаворыцца не наогул пра абавязковы пераход усёй пісьмовасці Вялікага Княства на польскую, а толькі пра тое, што рашэнні земскіх судоў земскі пісар мусіць пісаць па-польску.*** (Вылучэнне маё — **З.С.**) *Да ўсяго гэтага варта дадаць, што да прыняцця канферэнцыяй гэтай пастановы... у Вялікім Княстве... кірылічнае пісьмо было закінутае настолькі, што калі даводзілася перапісваць кірылічныя тэксты, то іх перапісвалі (не мяняючы мовы) лацінкай (прыкладам гэтага служыць хроніка Быхаўца)».*

Спадзяёмся, што нашыя мовазнаўцы напішуць пра тую пастанову больш падрабязна, бо нагода — 300-годдзе — патрабуе, каб мы належным чынам ацанілі тую старонку нашай гісторыі.

**З.СІЦЬКА.**

 



# У пісьменніцкай камяніцы «Стрэчанне-Грамніцы»

Пад такой назвай упершыню на Беларусі адбыўся фестываль студэнцкіх і маладзёжных калектываў, прысвечаны веснавым святам Стрэчанню, Грамніцам, Гуканню вясны і Масленіцы. Адкрываючы фестываль, старшыня аргкамітэта Васіль Ліцвінка патлумачыў асноўны сэнс



народных свят. Так, прыкладам, Стрэчанне азначае сустрэчу холаду з цяплом, зімы з летам. Яго сэнс раскрываецца ў песні: «А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне, Зіма з летам стрэліся, стрэліся...» Грамніцы асацыіруюцца з чаканнем першага грому і маланкі як найбольш застрашальных стыхій у жыцці чалавека, якіх асабліва баяліся нашы продкі. Святы гэтыя належаць да розных гістарычных перыядаў. Стрэчанне — больш старажытнае, адлюстроўвае прыроду ў карагоднаспеўнай культуры; Грамніцы — рытуалізавана асвячэннем агню ў царкве з запаленнем грамнічнай свечкі. Спадар Ліцвінка прадставіў творчыя калектывы і абвясціў конкурс на лепшае выкананне стрэчанскіх, грамнічных і масленічных песняў.

Была абрана рада фестывалю. У яе ўвайшлі: ад Міністэрства культуры У.Гілеп, а таксама Т.Стружэцкі і А.Баганёва; ад Міністэрства асветы Г.Бутрым і А.Масленнікава; ад Упраўлення культуры пры Мінгарвыканкаме Л.Віжнавец і М.Агароднікаў; ад Беларускага універсітэта культуры рэктар Я.Грыгаровіч і мастацтвазнаўца С.Гуткоўская. У фестывалі ўдзельнічала ўсяго дзевяць калектываў, з іх два дзіцячыя — «Дударыкі» (мастацкія кіраўнікі З.Ровенскі і М.Котаў) і «Жаваранкі» (маст. кіраўнік Н.Баяльская). Адкрывалі канцэрт «Дударыкі». Пасля іх выступілі «Грамніцы» (маст. кіраўнік У.Зіневіч), «Кірмаш» (маст. кіраўнік І.Сінкевіч), «Верніца» (маст. кіраўнік А.Мяжэнны), «Гарадніца» з Гародні (маст. кіраўнік А.Лойка), «Горліца» (маст. кіраўнік В.Карака), «Ліцвіны» (маст. кіраўнік У.Бербераў), «Неруш» (маст. кіраўнік В.Гладкая) і жаночы ансамбль з вёскі Прусіна Касцюковіцкага раёна. На жаль, ансамбль «Медуніца» з Лёзнаў на выступленне спазніўся. З сольнымі нумарамі выступілі Міхась Басякоў, які паказаў голасам гукавую магію вызывання вясны, і Тамара Ліхадзіеўская — выканаўца народных песень і частушак тыпу:

*Ой, ляцелі шэры гусі*
*Каля броду селі.*
*А чаму ж мы, беларусы,*
*Гэтак абруселі.*

Сапраўднымі носьбітамі ўсходнебеларускай традыцыі паказалі сябе выканаўцы абрадавых песняў з вёскі Прусіна — найбольш блізкія да жыццёвых крыніц аўтэнтычнага фальклору. Калектыў гэты бліскуча выканаў карагодную народную песню «Стрэчанне». У рэпертуарах маладзёжных калектываў, акрамя абрадавых песняў, пераважалі новыя песні, запісаныя ў наш час студэнтамі і апрацаваныя для выканання на сцэне. Вельмі прыемнае ўражанне пакінулі па сабе песні «Прынёс нам чорны воран», «Як пайду я ў белую канюшню», «Ой, саду, мой саду зялёны», «Да й ужо ж вясна», «Каліна-маліна», «Запрагу я каня» і інш. Ансамбль «Верніца» вызначыўся яўрэйскім народным танцам «Карапет», а «Гарадніца» — эстрадным, сучасным, шлягерным у добрым сэнсе слова, выкананнем некаторых песняў. Так, песня «Чучарыла» выклікала бурныя воплескі, а песню «На вуліцы грымата» давялося выконваць на «біс».

Ансамблі вылучаліся таксама сваімі строямі з самаробных і крамных тканін. Усе — рэгіянальна адметныя, па-мастацку распрацаваныя, як, прыкладам, жаночае адзенне ансамбля «Верніца», створанае мастаком і этнографам Раманюком.

Удзельнікі фестывалю былі ўзнагароджаны дыпломамі, грашовымі прэміямі, каштоўнымі падарункамі і спецыяльнымі прызамі. Першыя два месцы занялі фальклорны калектыў вёскі Прусіна (за выкананне стрэчанскай песні) і «Горліца» (за песню «Масленка»). «Гарадніца» заняла трэцяе месца, хоць і не мела ў сваім рэпертуары праграм усходнебеларускай традыцыі. Названыя калектывы атрымалі дыпломы і грашовыя прэміі. Астатнія ж ансамблі былі ўзнагароджаны граматамі і падарункамі. Спецыяльным прызам, падарункам і граматай рада пастанавіла ўзнагародзіць Міхася Басякова, пра якога «Наша слова» ўжо пісала, што ён пераняў ад свайго роду выкананне найстаражытнейшых беларускіх балад, абрадавых і гістарычных песняў. Паколькі яны ўжо не бытуюць на Бацькаўшчыне, то выходзіць, што Міхась застаецца іх адзіным носьбітам.

**І.К.**

**На здымках:** Спявае **Міхась Басякоў**. Выступае ансамбль «Кірмаш».

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**






Дзве найярчэйшыя зоркі на небасхіле расійскай паэзіі нашага стагоддзя — паэткі трагічнага лёсу Ганна Ахматава (1889—1966) і Марына Цвятаева (1892—1941)...

## Ганна АХМАТАВА

* * *

І хлопчык, што іграе на валынцы,
І дзеўчанё, што свой пляце вянок,
Крыж-накрыж сцежка ў лесе на сцяжынцы,
Агонь далёкі, быццам светлячок, —

Мне ўсё відаць. Я ўсё запамінаю,
Любоўна-ціха ў сэрцы берагу.
Ніколі толькі аднаго не знаю
І ўспомніць нават болей не магу.

Я не прашу ні мудрасці, ні сілы.
Прашу, каб ваш агонь сагрэць памог!
Мне холадна.. Крылаты ці бяскрылы,
Не прыйдзе да мяне вясёлы бог.

* * *

Мне голас быў. Ён зваў уцешна,
Ён гаварыў: «Ідзі сюды,
Пакінь свой край, глухі і грэшны,
Пакінь Расію назаўжды.
Я кроў ад рук тваіх адмыю,
Дастану сорам я з душы,
Я новым імем цябе ўкрыю,
Каб боль ад крыўды заглушыць».
Ды гэтай ганьбе сэрца раніць
Я не дала, замкнула слых,
Каб дух журботны не спаганіць,
Па мёртвых — памяці ў жывых.

**Пераклад з расійскай Валянціна Рабкевіча.**

## Марына ЦВЯТАЕВА

* * *

Мне ўсцешна, што Вы хворыя не мной,
Мне ўсцешна, што я хворая не Вамі,
Што восі зраўнаважанасць зямной
Не зрушыцца пад нашымі нагамі.
Мне ўсцешна, што без пыхі ледзяной
Магу быць з Вамі — й не хітрыць вачамі,
Не чырванець, не бавіцца маной, —
Адно судакранацца рукавамі...

Мне ўсцешна, што не сорамна ані
Пры мне Вам абдымаць яе, другую,
Што Вы мне не прарочыце ў агні
Пякельным быць, бо я не Вас цалую,
Што Вы імя з пяшчотай дзень пры дні
Маё не паўтараеце ўпустую
І што сярод царкоўнай цішыні
Ніколі не спяюць нам: алілуя!

Я ўдзячная Вам сэрцам і душой
За тое, што, не ведаючы самі,
Вы любіце мяне; за мой спакой,
За нашы не-гулянні вечарамі,
За поўню, што не ў нас над галавой,
За тое, што не бачыліся днямі,
Што ўсё ж — на жаль! — Вы хворыя не мной,
Што ўсё ж — на жаль! — я хворая не Вамі.

**Пераклад з расійскай Лявона Баршчэўскага.**

*(Ганарар — у фонд рэдакцыі.)*

*Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»*

Валянціна ВЫХОТА

# Коласавы зернеткі

*(Заканчэнне ўступу да другой часткі артыкула «Шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў»)*

Назіраюцца выпадкі, калі генетычна роднасныя словы, акрамя агульных значэнняў (у нямецкай і беларускай мовах), у беларускай мове набываюць іншыя значэнні і могуць прымацца за блізказначныя ці сінонімы. Прыкладам могуць быць словы ***шанаваць*** і ***шкадаваць***. Аляксандр Брукнер у этымалагічным слоўніку польскай мовы дае гняздо слоў: *szkoda, ...szkodzić, szkodować ...* — пазычана з ням. *Schaden*. Параўнаем кантэксты:

| | |
|---|---|
| *Хадзі, хата, хадзі печ!* | *А пан нічога не **шануе*** |
| *Не **шкадуй** жа сваіх плеч!* | *І, расчыніўся губы-трубы,* |
| *Фатыгі Такса не **шкадуе*** | *Як непрытомны, злосны, грубы* |
| *Дзярэ, грызе, пішчыць, скавыча,* | *Шпурляе кнігі, рве паперы* |
| *Бо знак дае, што ёсць здабыча.* | *І брудна лаецца без меры.* |

Ілюстрацыя блізказначнасці і нават сінанімічнасці слоў ***шанаваць*** і ***шкадаваць*** падаецца ў слоўніках (БРС, РБС, ТСБМ):

**ШАНАВАЦЬ** (каго, -што) 1. беречь; щадить (БРС).

**ШКАДАВАЦЬ** 4. (каго-што) жалеть, беречь; щадить (БРС).

**ШАНАВАЦЬ** 1. Беражліва адносіцца, берагчы каго-што-н. (ТСБМ).

**БЕРЕЧЬ** ***шанаваць*** (РБС).

**ЩАДИТЬ** 2. (жалеть) ***шкадаваць*** (каго-што, чаго); (относиться бережно, заботливо) ***шанаваць*** (РБС).

**ЖАЛЕТЬ** ***шкадаваць*** (РБС).

З радкоў паэмы і са слоўнікаў бачная тоеснасць і падабенства значэнняў слоў ***шанаваць*** і ***шкадаваць*** і здольнасць іх да замяшчэння адно аднаго.

Нямецкае слова *schonen* суадносіцца са словамі ***шанаваць*** і ***шкадаваць:***

***schonen*** 1. беречь, щадить; обходиться бережно (с чем-л., с кем-л.) seine Sachen ***schonen*** (GDRW) — ***шанаваць*** вопратку (БРС); жалеть 2. (беречь) ***schonen;*** жалеть здоровье die Gesundheit ***schonen*** (РНС) — ***шкадаваць*** здароўе (БРС); щадить здоровье — берагчы ***(шанаваць)*** здароўе (РБС); щадиться 1. ***шкадавацца...*** 2. берагчыся; ***шкадавацца, шанавацца*** (РБС) — II ***schonen sich*** беречься du muß ***dich*** mehr ***schonen*** (GDRW)

Слоўнік «Der Große Duden» падае слова ***schonen*** як <'schön behandeln'> добра, з павагай абыходзіцца. У «Deutsches Wörterbuch» Г.Паўля ***schonen*** «behutsam verfahren» 'бережно обходиться, поступать'.

Зваротная форма ***шанавацца*** мае адпаведнік ва ўстарэлай канструкцыі ***schonen*** zu + Infinitiv (DW)

| | |
|---|---|
| *Няма ні сораму, нічога...* | sie ***schonen*** nicht vor meinem |
| *Ды **пашануйся** ты хоць бога.* | Angesicht zu speien (Luther) |
| *Хоць бы граха ты пабаяўся.* | |

У беларускай мове **ШАНАВАЦЦА**//Разм. Весці сябе прыстойна ў прысутнасці каго-н. (ТСБМ).

Зусім іншымі выразамі ў нямецкай мове перадаюцца значэнні слоў ***шанаваць, ушанаваць***. Параўнаем:

| | |
|---|---|
| *І людзі дзядзьку **шанавалі**,* | achten, ehren, hochschätzen, j-m |
| *І на кірмашы частавалі.* | Ehre zollen, j-n in Ehren halten (PHC) |
| *Але ўжо елі без ахвоты,* | die guten Sitten beobachtenm iner |
| *Абы падатак той аддаць,* | halten, pflegen (WDG). |
| *Стары звычай **ушанаваць**.* | |

**Шанаваць.** Ням. schonen, с.-в.-ням. schōnen утворана ад schön 'прыгожы', с.-ніж.-ням. schōnen 'старанным спосабам захоўваць, асцярожна абыходзіцца'. І-е корань *(s)keu-; *(s)kēu- 'на нешта звяртаць увагу, прыкмячаць'.

Трэба адзначыць, што «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» М.К. Клышкі не падае словы ***шанаваць*** і ***шкадаваць*** як сінонімы ці блізказначныя словы:

*шанаваць — Ашчаджаць*
*шкадаваць — Каяцца.*

Словы ***шкода, шкодзіць*** будуць разглядацца асобна.

*Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»*

Сымон БАРЫС

# Як у нас клічуць

## Жаночыя імёны

*(Працяг.)*

**Кацярына. Кася.** Екатерина (грэц.) — чыстая заўсёды, цнатлівая. Вытв.: Касечка, Каська, Касюня; Кацечка, Кацька, Каця, Кацюша; Кацярынка, Катарына. Імяніны: пр. 7.12; кат. 13.02; 2, 22, 24.03; 30.04; 26.11.

**Кіра.** Кира (грэц.) — пані, спадарыня. Утворана ад мужч. імені Кір. Вытв.: Кірачка, Кірка, Кіруля, Кіруся, Кіруська. Імяніны пр. 13.03.

**Клара.** Клара (лац.) — светлая, ясная. Вытв: Кларка, Кларачка, Кларуся. Імяніны кат. 18.08; 11.12.

**Клаўдзя.** Клавдия (лац.) — кульгавая. Вытв.: Клаўдзечка, Клаўдзенька; Клава, Клавачка, Клаванька, Клаўка; Клаша, Клашка. Імяніны: пр. 6.01; 31.05; 19.11; кат. 20.03.

**Клеапатра.** Клеопатра (грэц.) — славутая па бацьку. Імяніны пр. 1.11.

**Клацільда.** Клотильда (са стар. ням.) — славутая бітва. Імяніны кат. 3.06.

**Куліна.** Акулина (грэц.) — арліная. Вытв.: Кулінка, Кулінaчка, Кулітка, Акуліта. Імяніны 20.04; 26.06.

**Краса** (слав.). Вытв.: Красачка, Краска, Красуля.

**Каліна** (слав.) Вытв.: Каліначка, Калінка, Каліnуся.

**Купаліна** (бел.). Вытв.: Купалка, Купалачка, Купалінка.

**Купава** (слав.). Вытв.: Купаўка, Купавачка.

**Ларыса, Лара.** Лариса (грэц.) — чайка. Вытв.: Ларысачка, Ларыска, Ларысанька; Лара, Ларачка; Лора, Лорка, Лорачка. Імяніны пр. 8.04.

**Лада** (слав.). Вытв.: Ладачка, Ладка, Ладуся, Ладуля.

**Лаўра.** Лаура — жаночае імя ўтворана ад мужчынскага імені Лаўр (грэц.), а яно з лац. — дрэва лаўр. Імяніны кат. 17.06.

**Лаўрэнція.** Лауренсия (лац.) — жаночае імя ад мужчынскага імені Лаврентий — з горада Лаўрэнт. Імяніны кат. 8.12.

**Лебедзь.** Лебедь (слав.). Вытв.: Лябёдка, Лябёдачка.

**Леаніла.** Леонила (грэц.) — строгая. Вытв.: Леанілка, Лёня, Нілка, Нілачка.

**Лявонія.** Леония. Леонида. Жаночае імя ўтворана ад мужчынскага імені Лявон. Вытв.: Лявоніна, Лявонка, Лёня, Лявося.

**Лёдзя.** Леокадия (грэц.) — па назве вострава. Вытв.: Лёдзечка, Лядзюня. Імяніны кат. 9.12.

**Ліда.** Лидия (лац.) — з Лідзіі. Вытв.: Лідачка, Лідка; Лідуся, Лідуська, Лідусечка, Лідусенька. Імяніны: пр. 5.04; кат. 27.03.

**Ліза.** Лізавета. Елизавета (яўр.) — клятва «Бог мой, Богам клянуся». Луиза (франц.) — жаночае імя ад мужчынскага імені Луі, якое са стар.ням. слаўны бой. Вытв.: Лізачка, Лізка. Імяніны: пр. 18.09; 9.11; кат. Луіза — 25.08.

**Лілея.** Лилия — паходзіць ад назвы кветкі; калька з імені Сусанна (яўр.) — Лілея. Вытв.: Лілечка, Лілька, Ліля. Імяніны кат. 24.05.

**Ліна.** Лина. Эвелина (стар. яўр.) — ласкавае імя Евы. Імяніны кат. 24.12.

**Лія.** Лия (яўр.) — цялушка. Вытв.: Лійка.

**Ліяна.** Лиана — ад назвы расліны. Вытв. Ліянка.

**Лёля.** Лёля, Элеонора. Лёля — ад язычніцкага бога Леля. Элеанора (італ.), якое з грэц. — міласэрнасць. Вытв.: Лёлечка, Лёлька, Ляля. Імяніны кат. 21.02.

**Люба, Любава.** Любовь (слав.) — калька з грэц. імені Агапа — любоў, каханне. Вытв.: Любка, Любачка, Любча, Любанька, Любаша, Любця, Любуся, Любуська, Любусечка. Імяніны пр. 30.09.

**Любіма.** Любима (слав.).

**Людвіся, Людзьвіна.** Людвига — жаночае імя ад мужчынскага імені Людвіг, якое са стар. ням. слава і бітва. Імяніны кат. 14.04.

**Людміла, Міла.** Людмила (слав.) — мілая для людзей. Вытв.: Люся, Люсенька, Люсечка, Люда, Людка, Людачка, Люданька, Людуня, Людуся; Міла, Міля, Мілка, Мілачка, Міланька, Міленька, Мільця. Імяніны: пр. 29.09; кат. 20.02; 7.05; 30.07.

*(Працяг будзе.)*

 



У Заслаўі адкрылася незвычайная выстава. Яна прысвечана гісторыі гэтага старажытнага беларускага места. Яе адлюстраваў у сваіх творах вядомы мастак Віктар Маркавец. Дзеля здзяйснення задумы ён выбраў тыповую ў беларускім народным мастацтве традыцыю маляваных дываноў, так званых «маляванак».

Экспазіцыя размясцілася ў вежы Спаса-Прэабражэнскай царквы, дзе злучаюцца гісторыя, дойлідства і дух старажытнага Заслаўя. Арганізатарамі выставы «Старонкі гісторыі Заслаўя» сталі Дзяржаўны гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе», Спаса-Прэабражэнская царква, дабрачынная асацыяцыя «Рада» ды гарадскія ўлады.

Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА.

**На здымку:** Адкрыццё выставы «Старонкі гісторыі Заслаўя». **Фота аўтара.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 12 сакавіка аўторак | Прэм'ера кнігі паэзіі Анатоля Вялюгіна «Заклён на скрутны вір» | 18.30 | Канферэнц-зала |
| 14 сакавіка чацвер | Секцыя паэзіі | 15.00 | Канферэнц-зала |
| 19 сакавіка аўторак | «Краса роднага слова». Вечарына, прымеркаваная да тыдня дзіцячай кнігі | 14.00 | Вялікая зала |
| 21 сакавіка чацвер | Вечарына кінафільмаў па сцэнарыях пісьменніка Уладзіміра Арлова «Рандэву» — рэжысёр Ірына Волах, «Полацкія лабірынты», «Сімяон Полацкі» — рэжысёр Станіслаў Гайдук, «Ефрасіння Полацкая» — рэжысёр Вольга Моракава | 18.30 | Вялікая зала |
| 25 сакавіка панядзелак | Прэм'ера мастацкага фільма рэжысёра Анатоля Панамарова «На чорных лядах» | 18.30 | Вялікая зала |
| 27 сакавіка серада | Секцыя перакладу «Новае ў тэорыі перакладу» | 15.00 | Канферэнц-зала |
| 28 сакавіка чацвер | Берасцейцы ў Менску | 18.30 | Вялікая зала |

**Сардэчна запрашаем!**
**г.Менск, вул.Фрунзе, 5,**
**тэл. 36-09-09.**
**Уваход вольны.**

## ПРЭСА-КУЛАМЕСА

**Да чаго ж разблібліκаліся!**

«...падтрымала Бліблійная камісія...»

*«Літаратура і мастацтва».*

**Ту-ту, карэктары!**

«Ту скразнякі гісторыі хадзілі...»

*Там жа.*

**Ату падпольшчыкаў ад квітнеючага быльніку!**

«Цяжка сказаць, хто браў на сябе ролю падпольшчыкаў леташняга быльніку, які скрозь буяў на пустой зямлі...»

*Там жа.*

**Днём з агнём не знойдзеш**

Даведнік «Беларускія пісьменнікі» (Мн., 1994) — выданне, безумоўна, карыснае і патрэбнае. Але... Пра паэта Янку Бобрыка, напрыклад, паведамляецца: «Асобныя вершы змешчаны ў зборніку «Мы іх не забудзем» (1949)».

**Няхай бы аўтар нататкі паспрабаваў адшукаць у памянёным зборніку вершы Я.Бабарэкі.**

Я.К.

*Пачутае «У Лявона»*

## Надомнікі

Сімпатычная госця шынка фліртуе з вусатым наведвальнікам. З яе языка так і сыплюцца пытанні...

— А дзе працуеце?

— Я? Я — дома.

— Усе мужчыны дома нешта робяць, ну там смецце выносяць ці бульбу абіраюць. Але на якім заводзе ці, можа, у банку?

— Я ж сказаў, што дома.

— У Вас прыватная фірма, зарэгістраваная на ўласную кватэру? А ці чулі, што такім, як Вы, трэба перарэгістравацца?

— Гэта мяне не датычыць, я — пішу.

— А што пішаце — вершы?

— Не, гістарычныя раманы.

— О, я вельмі люблю гістарычныя раманы. Перачытала ўсяго Друона, ну, там пра нейкую ваўчыцу.

— Я пішу пра вядомых беларускіх жанчын.

— Пра каго? Можа пра спявачку Лялю? Кажуць, што яна... у Штатах...

— Не, я пішу пра Барбару Радзівілішку.

— Пра Санту Барбару?

— Не, пра беларуску Барбару з славутага роду Радзівілаў...

— А яна што, партызаніла?

— Не, гэта была шляхетная жанчына, якая за права кахаць заплаціла жыццём.

— Як гэта заплаціла? Яму плаціла, каб ён яе кахаў?

— Не, яе атруцілі за тое, што яна пакахала караля.

— Караля рэкеціраў?

— Не, звычайнага караля.

— Як гэта — звычайны кароль? Не нафтавы, не піўны?

— Былі ж некалі такія ўладары. Прыкладам, як цяпер прэзідэнт.

— Маю сяброўку таксама забілі, бо яна аднойчы паехала з нейкім там каралём-рэкецірам, якога забілі...

— Спачуваю Вам.

— Дзякую. Таму я працую толькі дома.

*Гэты сумны дыялог чуў П.П., седзячы ў шынку, п'ючы дражніцкае піва і чытаючы польскага гумарыста Януша Асэнку.*




**Хто каким языком хатит...**

*Пародыі*

*Янусь МАЛЕЦ*

## Нябесная місія

*Ты той,*
*Хто мне пасланы быў ад Бога.*
*О, як я размінулася з табой!*

**Люба Тарасюк.**

Цябе прыслалі з неба нечакана
І ты пытаўся: «Дзе тут Тарасюк?
Не Явар там якуюсьці Святлану,
Не Валянціну там якуюсьці Хамчук,
Мне вашу Любу, падавайце Любу!
Сам Бог сказаў яе мне адшукаць,
Ён аб'ядналь нас хоча, мусіць, шлюбам,
Ёй асабіста трэба штосьць сказаць».
Захваляваўся люд зямны раптоўна.
Бо ўсё-ткі з неба тупаў чалавек,
І налілі табе тры чаркі поўных,
Як тут заўжды рабілі з веку ў век.
А я тады не помню, дзе хадзіла,
Забылася зусім, дзе я была,
А ты, як той мужык звычайны, рыла
Заліў і раптам знік кудысьці з-за стала.
Гляджу цяпер на Марс, як на Венеру
Глядзеў калісьці класік наш Максім,
І чую з неба сумнае:
«Халера,
Няхай бы я не піў тады зусім!»

*Жарцікі*

## Вучоба

Разваліўся плот зусім.
Рамантуе дзед Яўхім.
А яго цікуе «крошка»,
Падшываністы Цімошка.
— Павучыцца хочаш трошкі
Забіваць цвікі у дошкі?
— Я прыкмеціў — крыва б'еш:
Мо, па пальцах пеканеш.
А тады, гатоў прызнацца,
Павучуся мацюкацца...

**М.МАСКЕВІЧ.**

*У старых фаліянтах*

## «Адпаведны» колер

Прыроджаны хіб зроку — неадрозніванне колераў — упершыню апісаў англійскі фізік і хімік Джон Дальтон, 230-годдзе якога прыпадае сёлета. Ён сам пакутаваў на гэтую хваробу, якая, дарэчы, не стала перашкодай ягонай навуковай дзейнасці. Джонам Дальтонам зроблены шэраг адкрыццяў, у прыватнасці, усталявана атамістычнае ўяўленне ў хіміі, уведзена паняцце атамнай вагі хімічных элементаў. За навуковыя дасягненні яго прынялі ў 1822 годзе ў Лонданскае каралеўскае таварыства, а праз 8 гадоў ён быў абраны членам Парыжскай Акадэміі навук.

Праз сваю хваробу Джон Дальтон трапляў у прыкрыя сітуацыі.

Аднойчы ён падараваў маці на дзень нараджэння прыгожыя шаўковыя панчохі. Яна падзякавала сыну, але заўважыла, што ёй не будзе куды выйсці ў такіх ярка-чырвоных панчохах.

— Як гэта? — здзівіўся Джон. — Я ж купіў табе фіялетавыя, адпаведнага твайму ўзросту колеру.

Маці ў адказ засмяялася, але Джон не здаваўся. Толькі суседзі, якіх паклікалі вырашыць спрэчку, давялі яму, што панчохі, вядома, вельмі добрыя, але іх чырвоны колер вельмі незвычны.

Іншым разам Дальтон, ужо будучы вядомым навукоўцам, трапіў у Парыж і ў адной з лепшых крамаў намерыўся купіць сабе матэрыял на гарнітур. Ён паказаў на скрутак тканіны:

— Прашу адмераць мне гэтага сукна. Матэрыял, здаецца, будзе добрым на гарнітур, і колер адпаведны.

— Але, прашу, вас, — здзівіўся прадавец, — гэта ярка-чырвонае сукно бяруць толькі на курткі для паляўнічых.

— Ах, — уздыхнуў Дальтон. — То і вы здагадаліся пра хваробу маіх вачэй.

**Вычытаў З.С.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 259

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3330 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 4.03.1996 г. у 15 гадзін.